НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

З любоўю да ўлоння 1997 №1(4)

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА





## Вітаем сваіх першых падпісчыкаў.

Мы працягваем выпуск газеты, ведаючы пэўна, што цяпер кожны наш нумар чакаюць па сотнях адрасоў у розных кутках Беларусі.

Падпіска тым часам працягваецца. За год мы сустрэнемся шэсць разоў – такім чынам, мы як бы пойдзем следам прыроды, зяраючы крок з яе няспешнай хадою і зменаю “дэкарацый” ды ўнікаючы залішняй мітатлівасці.

Рушым у далеч, за далягляды дзён. Да наступнага тысячагоддзя засталося тры гады. Не так мала, каб прыбраць і замесці ў нашым агульным доме...

Усім – шчаслівай долі ў Новым годзе!

Зноў стаю перад белым светам, на скрыжалях начы і дня.
Заўтра Сонца паверне ў лета. Я ў завеі стаю адна...
Над вузламі маіх дарогаў – векавечны Калядны Шлях.
Я гляджу на цябе з парогу, маё дзіва – мая Зямля. *Антаніна Хатэнка*

### Увагі рэдакцыі

Падпіску на газету “Белавежская пушча” можна аформіць у кожным паштовым аддзяленні і ў любы час. Кошт аднаго падпіснога нумара 6 тыс. рублёў. Зычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання, таму зважаем: прачытаў – перадай другому, падпісаўся – пераканай іншага. Да спаткання ў красавіку.

Газета дапускае поўную магчымасць суіснавання на сваіх старонках двух моўных варыянтаў: так зв. класічнага (“тарашкевіцы”) і сучаснага (так зв. паслярэформавага) правапісу, які вывучаецца ў школах. Аднак, зважаючы на цяперашняе панаванне другога, “школьнага” варыянту, газета мусіла перайсці да апошняга ў якасці дамінанты.



## Год Зубра

Слова рэдактара



*Фота: Анатоль Кляшчук*

Дзень добры ў добрым годзе, дарагі чытач! Дазволь засведчыць, што мы разам. У радасці і любові да роднага ўлоння, да нашых раўнінных айчынных ландшафтаў. У вечным памкненні шукаць і знаходзіць сяброў, выбіраць аднадумцаў, ладзіць стасункі. Хай спраўдзяцца нашы надзеі: твае – на абранага спадарожніка, нашы – на тваю ахвярную падтрымку. Ты, магчыма, прымераў традыцыйную навагоднюю маску з абліччам жывёліны, якая, згодна з усходняй астралогіяй, дала назву наступнаму году. Але гэты раз справа не ў адной астразорнай дэкарацыі. Гараскоп-97 дорыць нам выключна рэдкую падставу пражыць гэты год яшчэ й пад знакам... зубра.



Год Быка – хіба ж не значыць і год Зубра!.. Гэта не штучная ідэя, не якаясь прыдумка. А менавіта падстава. Важкая і значная. Той выпадак, калі кажуць: “О, гэта занадта шчаслівая акалічнасць, каб яе праігнараваць”. Такі шанец могуць прапусціць жыхары краінаў, дзе па дрэвах лазяць малпы ды спяць у цяснінах тыгры. А нам нічога не застаецца, як пачаць год Зубра і пражыць яго пад знакам пушчанскага аблюбенца. Мы прыйшлі ў гэты свет шмат пазней за яго, але цяпер, як ніколі раней, паядналыя агульнасцю лёсаў. “Будзем жыць, бо яны жывуць”, – напісала паэтка, маючы на ўвазе зуброў і беларусаў. Я разумею гэта і так: нам трэба застацца разам.

**Валерый Дранчук**

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва “Неруш-прэс”, падпісны індэкс 63267*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук.*

*Для кантактаў: 220088 Менск, вул. Іванаўская, 38-16 Тэл. (0172) 36-50-76*

*Published on the initiative of the Green Information Agency “Nerush-press”*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*

*Contact: Ivanovskaya str.38-16 Minsk 220088 Belarus*

# Экалагічны капітал

**Віталь Прошча**

***Якой цаной вымяраюцца багацці Белавежскай пушчы? Эканамісты і экологі задумаліся і назвалі прыкладную суму 500 мільёнаў даляраў як найбольш абгрунтаваную. Тым часам гэта не адзіны цэннік, які з'явіўся на прыродным аб'екце апошнім часам. Называюцца таксама іншыя сумы, часам намнога большыя, што выяўляе інакшыя меркі ды метады ацэнкі. Наш суразмоўца прафесар Аляксандр Няверaў, адзін з аўтараў "прагматычнай канцэпцыі" і адзін з распрацоўшчыкаў Плана аховы біяразнастайнасці лясоў Белавежскай пушчы лічыць, што вызначаная сума, з аднаго боку, павінна быць адзінай, з другога, прызнанаю і ўзаконенай на дзяржаўным узроўні.***





*"Пушча — загадка,*
*разгадка хаваецца ў лесе..."*
**Мікола Гусоўскі**



Па-першае, падрахаваць экалагічны капітал Белавежскай пушчы цікава з пазнавальнага боку, зазначыў прафесар Няверaў. *Мы часта гаварылі і, напэўна, будзем казаць заўсёды, што каштоўнасць Белавежскай пушчы нязмерная, што сама па сабе Пушча бясцэнная. Гэта, безумоўна, так. Аднак трэба бачыць і прагматычны, утылітарны бок: якую каштоўнасць мае Пушча ў параўнанні з іншымі лясамі Беларусі, суседніх еўрапейскіх краін. У якой канкрэтнай суме выражаецца яе сённяшняе багацце?*

Такое параўнанне і зрабілі эканамісты і экологі ў рамках белавежскага праекта. Паводле іхніх разлікаў, адзін гектар лесу Белавежскай пушчы прыкладна ў 5-10 разоў перавышае каштоўнасць звычайных лясоў Беларусі. А сума экалагічнага капіталу Пушчы склала блізу 500 мільёнаў даляраў.

Спадар Няверaў падкрэсліў рынкавы момант падрахавання. *Са сваім капіталам Пушча як рэгіён можа ўвайсці ў тую ці іншую рынкавую структуру, ведаючы дакладна, якімі памерамі вызначаецца яе доля. Важна і тое, каб велічыня экалагічнага капіталу арганічна ўплялася ў сістэму цэнавых адносін як прыродакарыстання так і агульнаграмадскіх, каб яна, урэшце, спрыяла захаванню тае самай "бясцэннасці", стымулявала гэтае захаванне эканамічнымі метадамі.*

Цікавая ўвага Няверава і на такі момант: калі будзе вызначаны экалагічны капітал усіх ахоўных тэрыторыяў, напрыклад, Бярэзінскага біясфернага запаведніка, Нацыянальнага парка *Прыпяцкі* і іншых, тады на падставе канкрэтнай цаны, пэўнага капіталу павінна вызначацца і доля фінансавання іх з боку дзяржавы, грамадства на ўзнаўленне, ахову і г.д. Няверaў назваў гэта *неабходным і аб'ектыўным механізмам. Чым большая каштоўнасць, тым большая доля фінансавання. Кожны аб'ект будзе клапаціцца пра тое, каб ягоны капітал узрастаў.*



* *зачараваны лес (алені)*
* *альтанка ў Пушчы*
* *чым пажывіцца? (дзікі)*
* *падчас палявання (здымак з архіва)*

*Фота: Уладзімір Дацкевіч, Валянціна Сабалеўская*

Белавежская пушча, на думку Няверава, ва ўмовах усталявання рынку паказала сваю годнасць, сваю вартасць як аб'ект, як асаблівы рэгіён. Яна цяпер мае і сваю цану ў грашовым варыянце, хай сабе яшчэ не канчатковым. *Я не выключаю іншыя ацэнкі, лічу толькі, што яны не павінны быць завышаныя, узятыя невядома адкуль. Яны мусяць быць рэальнымі, на рэальным грунце, каб маглі рэальна працаваць у эканамічных варунках. Не выключаю і дыскусіі на гэтую тэму. Я буду адстойваць свае пазіцыі, але гатовы й саступіць, пайсці на кампраміс, калі нечая методыка разлікаў будзе больш аб'ектыўная.*

Карыснасць такой дыскусіі Аляксандр Няверaў патлумачыў такім чынам. *Каб нармальна гаспадарыць і захоўваць экалагічны капітал Пушчы, яе прадукуючую здольнасць і росквіт, нам патрэбна адна лічба, якую варта ўзаконіць, адна методыка, якую трэба прыняць адпаведным дзяржаўным структурам.*

SUMMARY

*What is the dollar value of Belavezhskaya Pushcha? Economists and ecologists quoted 500 million dollars. However, this not the only price label on this unique natural park. Professor Neverov thinks that there should be just one cost which must be legalized and recognized by the government.*

# ГОД ЗУБРА THE YEAR OF THE BISON



# «Будзем жыць, бо яны жывуць...»

## Белавежскі зубр як гарант геапалітычных інтарэсаў суверэннай Беларусі




** сілуэт зубра і геаграфічныя контуры Беларусі на дзіва супадаюць.*



**Валерый Дранчук**

**Ё**н застаецца прыгожым і дужым. Час не паменшыў ягонай вагі і памераў. Не адабраў сілу і моц, давер і пяшчоту.

**Я**гонае існаванне ўжо сталася своеадметным знакам планетарнай велічыні. Ягоны поступ па зямлі вымяраецца стагоддзямі. Сучаснік маманта, ён ацалеў, выстаяў, выжыў. Прыканцы XX стагоддзя пашчыпвае зялёны кустоўнічак, ласуецца ягаднікамі, пасецца на лясных імшаніках.

**Д**зякуючы валадару-чалавеку, арэол ягонага панавання параўнальна з сярэднявеччам звузіўся да небяспечнае рысы; калі мы кажам, што зубр жыве паміж намі , дык маем на ўвазе перш-наперш Белавежскую пушчу, дзе ягоныя статкі налічваюць 300 галоваў. Але апошнім часам з'явілася некалькі новых месцаў жыхарства паводле сцэнару ягонага рассялення ў розных кутках лясной Беларусі.

**З**аўважым: зубр паступова апаноўвае Беларусь, кажучы фігуральна, як бы запаўняе сваёй прысутнасцю геаграфічныя контуры тэрыторыі суверэннай краіны, якія на дзіва (глядзі на здымак і малюнак) супадаюць з ягоным сілуэтам. І сёння гэта больш чым сімвалічна, гэта яшчэ -- актуальна. Змена ці размыццё контураў пагражае рэальнай дзяржаўнасці, інтарэсам самастойнай геапалітыкі, у рэшце рэшт нацыянальным інтарэсам.

**З**убр як бы сцвярджае сваю каштоўнасць у прыродзе і часе, ідучы на змену ядзерным арсеналам зьмілітыразаванай за дзесяцігоддзі Беларусі, прапануючы чалавецтву іншыя ідэалы на схіле другога тысячагоддзя.

**Т**ак, мы павінны застацца разам, бо нашыя лёсы — зуброў і беларусаў — узаемазнітаваныя, перавітыя. Хоць бы ў тым сэнсе, што першыя патрапілі ўжо ў Чырвоную кнігу, а нам, роду людскому, пад жорсткім чарнобыльскім каўняром, трэба як мага ўнікнуць такой перспектывы.

**З** усіх найбольш вядомых сімвалаў Беларусі як дзяржавы пушчанскі волат застаецца найпапулярным. Зважаючы на год Зубра, які рэдакцыя газеты абвяшчае перш-наперш для сваіх чытачоў, варта ўсім падумаць, як зрабіць, каб шырокі свет ідэнтыфікаваў Беларусь не з рогам раз`ятранай злыгі, а з прыгожай рагатай галавою белавежскага зубра ў квяцістым вянку першароднае флоры.

** уверсе: момант рассялення; яшчэ хвіліна — і выпушчаная пасля працяглай дарогі зубрыца першай рушыць у гушчар абжываць новае месца жыхарства (Валожынскі лясгас, заказнік "Налібоцкая пушча", люты 1994)*

** чыстакроўны белавежскі зубр — жывы помнік старажытнай фаўны;*

** беларускія і нямецкія спецыялісты падчас сумесных даследванняў;*

** малюнак Зічы (1903) сведчыць , што ваўкі нярэдка нападалі на зуброў;*







** на ўлонні Пушчы.*

*Фота: з архіва Неруш-прэс.*


SUMMARY

*Taking advantage of the astrological occasion, the author Valery Dranchuk makes a wish that the year 1997 be proclaimed year of the Belavezhski bison — the largest bull in Europe and... the guarantor of the stability of sovereign Belarus' borderes, as the geographical contours of this country and the animal's silhouette coincide amazingly.*

# ПА-НАД МЕЖАМІ

OVER THE BOUNDARIES

## Пушча ў нас адна

### Распавядае Чэслаў Аколаў (Польшча)

**Да візітоўкі**

***Чэслаў Аколаў — дырэктар Белавежскага нацыянальнага парка ў Польшчы. (Хто не ведае , узгадаю, што ў 1944 годзе , згодна з пагадненнем Сталіна — Берута, адбыўся падзел Пушчы на дзве часткі — савецка-беларускую і польскую).***

***Шчыры, камунікабельны, спадар Чэслаў заўсёды жаданы госць на сядзібе сваіх беларускіх калег. Пасаду дырэктара пасля доўгіх ваганняў прыняў на 30-м годзе сваёй дзейнасці ў парку.***

***Палымяны дыскутант, ён вядзе палеміку на вы/сокім прафесійным узроўні, аргументуючы пазіцыю за пазіцыяй мноствам прыкладаў, апелюючы да канкрэтыкі і мясцовай практыкі. Інтэлігентны, крыху імпазантны, рухавы. Паспеў наведацца ці не ва ўсе нацыянальныя паркі свету; падобна, мае з чым параўноўваць і сваю працу, і свае вынікі. Што да параўнанняў, спадар Аколаў іх не баіцца. І нават усяляк падахвочвае абставіны, у якіх людзі могуць ацэньваць сябе ва ўмовах параўнальнасці, а значыць адкрытасці, незалежнасці.***

***Таму на ягонае "Да сустрэчы ў Пушчы" , я адказваю ўзаемнасцю.*** В.Д.



Фота: Валерый Дранчук

**Самая ці не самая?**

— Аднойчы хтосьці з журналістаў запытаўся ў мяне, ці магу я пацвердзіць, што Белавежская пушча ёсць самай даследаванай кропкай у свеце. Пытанне вымушала перасцярогі і пэўнага разважання.

Мы прызвычаіліся, навучаныя, казаць, як багатая ды разнастайная наша прырода. Навуковая дзейнасць парка тым часам гэта не раз пацвярджала. Магу назваць прыклад, калі ў рамках праграмы на працягу 10 гадоў толькі ў адным квартале плошчай 144 гектары ўдалося выявіць 1500 відаў грыбоў. Прычым, не ўсе групы даследаваліся, бо не ставала спецыялістаў. Таму лічбу можна смела падвойваць. Прыкладна гэтак і з іншымі групамі. Сёння мяркуем так, а выяўляецца ўдвая ці ўтрая болей.

З гэтага, аднак, не вынікае, што прырода наша такая бязмежная ў сваёй разнастайнасці ды багацці. Бо можа здарыцца так, што гэта рэшткі апошніх месцазнаходжанняў ва ўсім свеце, якія ацалелі дзякуючы ўнікальнасці і характару нашых экасістэмаў. Усё залежыць ад таго, як добра вывучана тая ці іншая група ў Еўропе ці нават у свеце.

Вось чаму было б залішняй рызыкай прымацць думку, што Белавежская пушча ёсць самай даследаванай кропкаю ў свеце. Я ж не маю поўных звестак пра іншыя мясціны. А раптам, зноў такі, аб'явіцца нейкі вельмі цікавы невялічкі астравок паблізу якога-небудзь універсітэту. Там на даследванні адпускаецца шмат грошай, няма праблемы спецыялістаў, а да ўсяго й экасістэма значна прасцейшая... Мабыць, справядліва будзе сказаць, што Пушча ёсць адной з найлепш вывучаных куткоў свету. Няхай больш сціпла, затое ніхто не скажа: "Э-э, брат, ты тут перагнуў!" Лепш крыху недагнуць.

**Дзякуй папярэднікам!**

— Наогул, Белавежская пушча даследуецца сталым парадкам больш як 70 гадоў таму. Першыя даследчыцкія працы з'явіліся значна раней, за 150 гадоў назад. Але гэта былі хутчэй выпадковыя звесткі, якія датычылі зубра ці мелі агульнаапісальны характар.

Больш падрабязныя даследванні распачалі нямецкія вучоныя ў часе першай сусветнай вайны. Крыху раней працавалі тут польскія батанікі ды спецыялісты па зубру на чале з прафесарам Кулагіным. Сталая навуковая праца пачалася з заснавання ў запаведніку адмысловага летніка. Для назіранняў былі вызначаны нязменныя доследныя пляцоўкі, на якіх шматгадова збіраўся неабходны матэрыял. Гэтая праца ёсць асабліва каштоўнай, бо яна прасочвае жыццё дрэва – найбольш даўгавечнага кампанента, з якім маюць справу вучоныя Пушчы. На тэрыторыі нашага парка ёсць пяць такіх сталых пляцовак, дзе назіранні вядуцца ўжо больш як 50 гадоў... Яны даюць магчымасць адсачыць пэўныя заканамернасці, заўважыць змены ў структуры лесу пад уплывам чалавечага фактару. Гэтыя доследы ўжо шмат вытлумачваюць, аднак далёка не ўсё, бо 50 гадоў у жыцці лесу яшчэ вельмі мала. Хутчэй за ўсё нашу працу ацэняць нашчадкі. А мы працягваем тое, што зрабілі нашы папярэднікі.

**Цаглінка на цаглінку**

— Нас, сённяшніх, цешыць тое, што сабраны багаты навуковы матэрыял, ёсць падмурак і нават падведзена сярэдзіна. Мы працуем па зададзенай схеме, паводле вызначаных методык. Штогод друкуецца 20-30 новых навуковых прац, якія і ёсць вынікам, так бы мовіць, давершам. Мы бачым, як "цаглінка" кладзецца на "цаглінку" і выразнейшым робіцца агульны малюнак цэлага. Мы здолелі захаваць амаль усе калекцыі, ведаем, дзе знайсці той або іншы патрэбны экземпляр, на падставе якога апісаны новыя віды. Стараемся збіраць усе публікацыі – арыгіналы ці копіі, у тым ліку выразкі з газет, ёсць нават кітайскія, японскія, на іншых мовах. Нядаўна з Галандыі нам прыслалі газету, дзе ўся паласа прысвечана Белавежскай пушчы. Ёсць здымкі. Я не ведаю галандскай мовы, але знаёмыя прозвішчы ўбачыў адразу... Нам важна з публікацыі дазнацца, якое ўра-

## КАНТРАПУНКТ

CONTRAPUNCT



### Птаха з саннай дарогі

**Віталь Прошча**

*Чубатаму жаўранку блага. На гэта зважаюць знаўцы-арнітолагі, якія вывучаюць жыццё й паводзіны птушкі. Параўнальна нядаўна жаўранак-дзярлюк (не трэба блытаць з баравым і звычайным) быў навідавоку. Цяпер жа не толькі ў горадзе, але й на сельскай вуліцы зрэдку ўбачыш яго ў кампаніі суродзічаў-вераб'ёў.*

*"Што здарылася?" — спытаў я аўтара здымка, кандыдата біялагічных навук Аляксандра Казуліна. І пачуў нечаканы і разам з тым скрушны адказ: "Не стала гужавога транспарту — знік і наш чубаты знаёмца".*

*Лёгка ўявілася: санная дарога, на грудках конскага калу чародка птушак... Альбо дзе-небудзь пры плоце на сельскім падворку, ля крамы, на станцыі ці вакзале, на кірмашы — там, дзе конік, пад'едзены аўсом, чакае гаспадара пры ахапку кінутага сена... Жаўранак тут як тут: зярняткі нестраўленага аўсу для яго — залатая спажыва.*

*Але не ўсё вечнае ў гэтым свеце. Конь, падвода, сані зрабіліся, бадай, рэдкасцю. Паўсюль, што ні крок — трактар, грузавік, легкавік, матацыкл. Зважай,што надышоў канец "гужавога транспарту". Ці можа, кароткачасовы занепад — чакай рэнесансу!*

*Але нашаму жаўранку няма калі чакаць. Ён падаўся на поўдзень. Праблема спажытку прымусіла ахвяраваць адвечнай аселасцю і змяніць курс лёсу. А для чалавека гэта заўсёды знак: калі родная птушка знікае з двара ды адвечнай тваёй дарогі, ці не збочыў і ты з вернага шляху, не нашкодзіў чым-небудзь сабе самому?*





*Калі сучасная тэхнічная цывілізацыя ёсць вынікам памылковага шляху, дык магчымасць нараджэння другой, новай цывілізацыі залежыць ад таго, колькі чаго застанецца ад дзікай прыроды.*

*У чалавека больш чым трэба аб'ектыўных прычын, каб як мага захаваць непарушаную дзікую прыроду. Але ўрэшце рэшт прыроду можна ўратаваць толькі любоўю да яе.*

Жан Дорст.
**"Да таго як сканае прырода", 1967**

жанне на староннягa чалавека зрабіла Пушча. Цікава й карысна будзе ведаць, як мы данеслі гасцям інфармацыю пра Пушчу, і як яна ўспрынятая.

Увогуле, я маю сёння больш як 3,5 тысячы назваў друкаваных прац — пераважна арыгінальных даследванняў непасрэдна ў Пушчы, пачынаючы з канца мінулага стагоддзя. 1080 з іх датычаць непасрэдна Нацыянальнага парка.

Цяжка сказаць, якія з іх больш важныя, якія – менш. Іхнюю значнасць ацэніць час, ход натуральных працэсаў у лясных экасістэмах. Несумненна адно. Праз мноства з'яў яны паказваюць усю гаму ўзаемадачыненняў гэтых сістэмаў, дапамагаюць глыбей і паўней зразумець лес, ягоны характар і асаблівасці.

### Сяброўства – гэта калі...

— З пункту гледзішча экалогіі, Пушча не ёсць беларускай ці польскай. Гэта адзіны арганізм, які, на жаль, падзелены штучнай мяжой. У рэшце, Белавежская пушча належыць чалавецтву, аб чым сведчыць факт, што яна занесена ў спіс трансгранічных аб'ектаў сусветнай чалавечай спадчыны.

Традыцыя беларуска-польскага супрацоўніцтва мае ўжо сваю гісторыю. Калі прыгадаць, мы пачалі сумесную працу з таго, што ў 1946 годзе, пасля вайны, перадалі Беларусі зуброў, якіх на той час у яе не было. Пазней пачаліся іншыя працы — як гэта апошнім часам, напрыклад, аспекты забруджанасці паветра,пытанні пушчанскага генафонду. Ідзе досыць актыўны абмен працамі, ідэямі. Я з'яўляюся сябрам вашага вучонага савета, а дырэктар Нацыянальнага парка ў Камянюках – сябрам нашага. На паседжанні, апроч дырэктара, запрашаюцца супрацоўнікі паркаў. Свае стасункі мы замацавалі адмысловай дамовай. Маем прамую, хоць і не заўжды надзейную, тэлефонную сувязь. Мяжа паміж дзяржавамі, вядома ж , дыктуе пэўныя ўмовы, але мы павінны да гэтага ставіцца адпаведна, — мацаваць стасункі, працаваць сумесна, параўноўваць вынікі нашых даследванняў, часцей сустракацца, вучыцца адзін у другога, як лепш захаваць нашу Пушчу. Сяброўства — гэта калі ніводзін кампутар не заменіць жывога чалавечага доведу, кантактаў за агульным сталом, непасрэднага абмену думкамі. І калі ёсць адна, а не дзве пушчы.

### А на падводзе лепш!

— Заўважце такую дэталь. З 1925 года, калі яшчэ ніхто не ведаў пра забруджванне паветра цяжкімі металамі ды рознымі выхлапнымі газамі, ужо тады дзейнічала правіла: у парку не належыць карыстацца машынным транспартам. Прафесар Пачоскі тлумачыў свой захад тым, што машына стварае шум, а гэта турбуе жывёлін. І добра зрабіў! Бо спатрэбіліся б асфальтавыя дарогі, а менавіта з іх пачынаюцца ўсе беды ў прыродзе.

Мы пільнуемся іншай традыцыі. Замест дарог ёсць маршруты, якія нават не пазначаныя паказальнікамі на дрэвах, — гіды ведаюць. Дазваляецца праезд хіба на санях ці на падводах. Яшчэ, калі ласка, на ровары. Хто б да нас ні наведаўся, ён мусіць кіравацца правілам. А прыязджалі сюды знакамітыя госці. Ніякіх выключэнняў. Падавалі падводу ці сані. І ніхто не наракаў.

### Можна, але... асцярожна

— Ёсць турыстскія маршруты да 24 кіламетраў. Для больш спрактыкаваных. Калі дажджы і мякка ў лесе, даводзіцца ісці па дарозе. Мусім улічваць, што масавы турызм, нават арганізаваны і падкантрольны, робіць свой уплыў на асяроддзе. Вытоптваецца расліннасць, парушаецца каранёвая сістэма дрэў, якія растуць побач са сцежкай. Ды і за межамі тэрыторыі парка ёсць мясціны, якія лепш абысці. Напрыклад, гнёзды чорнага бусла, рэдкіх драпежнікаў, якія хаваюцца ад чалавека.Альбо мясціны, аблюбаваныя дзікімі жывёламі, дзе яны маюць асалоду адпачываць. Не вядзём групы і да вольных зубрыных статкаў — небяспечна. Зубра лепш пакінуць у цішыні і спакоі, самнасам з лесам. Адным словам, кіруемся разумным сэнсам:"Не нашкодзь!"

### Пейзаж на той бок мяжы

— Калі мы ўжо нацыянальны парк, дык хочам ці не, мусім рабіць яго даступным і цікавым для грамадства.У мяне, напрыклад, ёсць даўняя мара: каб нашы альбо вашы турысты, тыя, вядома, што хочуць убачыць і зразумець веліч Пушчы, маглі без праблем перасягаць мяжу і пешкі альбо на лыжах выпраўляцца на другі бок. Пабудуць дзень-другі ці некалькі гадзін, пагасцююць, паглядзяць, параўнаюць. Але галоўнае — дабяруць уражанняў цэлай, сапраўднай Пушчы, якую яны менавіта прайшлі, змералі, адчулі нагамі. Думаю, у такія падарожжы-экскурсіі будуць ахвотна выпраўляцца як нашы жыхары, так і вашы. Тут ніякай авантурнасці, трэба думаць пра людзей, пра іх здольнасць і зацікаўленасць браць удзел у такім турызме. Варта больш актыўна адкрывацца перад нашымі суайчыннікамі і як найлепш прэзентаваць ім нашу працу, нашу патужнасць. Яны хочуць і павінны ведаць, дзеля чаго так упарта захоўваем Пушчу і што гэта за такі лес, мясціна такая. Могуць быць і замежныя групы; я добра ведаю, што на гэткі маршрут яны пойдуць без ваганняў, не пашкадуюць і кругленькай сумы. Толькі трэба іх зацікавіць, уважаць іхнія пажаданні.

Тым часам мы актыўна рыхтуем будучых экскурсаводаў. Дзеля гэтага створаны адмысловыя курсы. Гіды, якія ўжо стала працуюць у Пушчы, падвышаюць узровень сваіх ведаў колькі разоў на год. Ладзім для іх паказальныя экскурсіі, лекцыі з дыяпазітывамі й фільмамі, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Працуе свой выдавецкі цэнтр, які выпускае інфармацыйныя навукова-папулярныя буклеты, брашуры пра Пушчу. Ёсць музей, дарэчы, самы старэйшы на Беласточчыне. Нядаўна адкрыўся цэнтр прыродазнаўчага навучання імя Яна Ежы Карпінскага. Усе — дзеці, моладзь, настаўнікі – чэрпаюць веды, імкнуцца спазнаць безліч таямніц, якія хавае ў сабе Пушча. Гэта наша будучыня. І нашы кадры.

### Кароткія адказы

— Вашы любімыя: ***ад падарожжа?***

— Пешшу з заплечнікам, не спяшаючыся, не прапускаючы мноства падрабязнасцяў, рэчаў, фарбаў, прадметаў... Вольны ад машыны альбо аўтобуса. І не толькі ў лес, але ў старыя гарады.

***— ...дрэва?***

— Старая сасна. Сама даўгавечнасць і прыгажосць. Асабліва кара, яе малюнак. Бачыў розныя, напрыклад, амерыканскую сасну. Вельмі цікавае дрэва. Але прыгажэйшых за пушчанскую сасну няма, не бачыў.

***— ... часіна года?***

—Цяжка сказаць, бо ў кожнай штосьці сваё, адметнае.

***— ... кампазітар?***

— Моцарт, Вэрдзі...

***— ... паэт?***

— Адам Міцкевіч. Ён прыгожа апісвае пушчу, не абавязкова Белавежскую, але заўсёды велічна, урачыста.

***— ... колер?***

— Восеньскія адценні кляновага лісця. Зверху пурпуровы, з пераходам у жоўты.

***— ... кропка на карце?***

— Белавежа, Белавежская пушча.

**Газета "Белавежская пушча"** шукае распаўсюджвальнікаў у Беларусі і замежжы. На гэтым, калі пастарацца, можна трохі і зарабіць, але галоўнае — каб газета ішла ў людзі, знаходзіла свайго чытача. Хто мае намер дапамагчы нам, няхай тэлефануе альбо напіша: 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38,16; тэл. 236-50-76. Для рэдакцыі важна ведаць найперш Вашую згоду і каардынаты.

## SUMMARY

*Czeslav Okolov, the director of Belavezhski National Park in Poland, shares his work experience in the reserve, and wishes to see the Pushcha as one whole in the scientific, cultural, and educational senses, even though it is divided by the border, p.4,5.*



# Спадчына вялікай інертнасці

## Знаўцы-эколагі свету прагназуюць паступовае вымяшчэнне вытворчасці лесаматэрыялаў за межы прыродных, вячыстых лясоў. І яны ж задаюць пытанне: якая частка гэтых лясоў ацалее, пакуль вымяшчэнне завершыцца?



Фота: Валерый Драчук.

**Валерый Рымашэўскі**



### Эксплуатацыя і наступствы

Калі табе, мой шаноўны і любы чытач, давялося хоць раз апынуцца на месцы сучаснай лесаздабычы і ты, ашаломлены ўбачаным, запыніўся ў збянтэжанай нерашучасці крочыць далей, гэты момант, вядома ж адклаўся ў памяці як згустак гаркавага досведу. Не, я не схільны лічыць цябе наіўным чалавекам, гатовым траціць прытомнасць перад першым спілаваным дрэвам. Справа ў іншым. Чаму нарыхтоўкі ў лесе пакідаюць такі цяжкі след у нас на сэрцы?

Гэтым летам я заспеў айчынных нарыхтоўшчыкаў акурат на другі дзень пасля завяршэння іхняй работы. Што пакінулі яны больш як на гектары абробленай дзялянкі старога лесу? Калі сказаць адным словам, – лясны Асвенцым, месца якога было пазначана слядамі немай пакуты: здратаваная зямля, чорныя, з дымным смуродам папялішчы, горы скінутага недагарэлага голля, могільнік пнёў. Лясная сцяжына, якую я помніў з мінулага лета, ператварылася ў шырокую шэрую аўтадарогу без адзінай зялёнай былінкі на ёй, і гэтая дарога шыбавала ўглыб, акружаючы зону лесаздабычы мёртвай пятлёю. Відовішча ўчыненай расправы дапаўнялася нежывой сціпшатою, якая не парушалася звыклым птушыным спевам ані раніцай, ані ўвечар.

А цяпер, мой чытач, давай возьмем у рукі адзін са штогоднікаў Інстытута назіранняў за станам свету (Вашынгтон). У 1991 годзе ў яго аўтараў было дастаткова падставаў,каб сцвердзіць наступнае. Лясныя абшары, якія доўгі час лічыліся невычэрпнай крыніцаю сыравіны, досыць хутка радзеюць і дэградуюць. Робіцца сумніўнаю здольнасць лясоў забяспечваць людзей усімі дарамі, у якіх тыя маюць патрэбу, і ў адначассі выконваць экалагічныя функцыі, што засцерагаюць здароўе планеты. На працягу апошніх 10 тысячаў гадоў, сведчаць аўтары, шчыльная мантыя з лясоў і лясістых тэрыторыяў, якою пакрыта зямная кара, скарацілася на адну трэць з-за таго, што дрэвы ішлі ў навал для вызвалення месца пад пасяўныя культуры, пашы і гарады. І хоць такая трансфармацыя ландшафтаў працягваецца й сёння (тут не абавязкова спасылацца на знікненне 17 мільёнаў гектараў трапічных лясоў штогод, дастаткова і еўрапейскага, і мясцовага беларускага досведу), тым часам патрэба ў драўніне як найгалоўным прадукце лесанарыхтовак сягнула сваёй найвышэйшай адзнакі за ўсе часы, і падставаў, што гэтая патрэба зменшыцца, у нас няма. Хутчэй трэба чакаць, што яна павялічыцца.

А як жа тады наша быццам аднолькава блізкае ўсім разуменьне ролі лясоў? Яны, як вядома, яшчэ змякчаюць і робяць устойлівым клімат, бароняць палі ад вятроў-сухавеяў, жывяць вадою азёры і рэкі, ахоўваюць багацце й разнастайнасць біялагічнай сферы. Выснова пра надзённую неабходнасць абароны лясных тэрыторый ад вынішчэння ці вольнага абыходжання як ніколі вострая.

### Вялікія парэшткі

Маючы Белавежскую пушчу за аргумент, можна й не пагадзіцца з аўтарамі штогодніка адносна сцвярджэння, што ўсе першабытныя лясы Еўропы зніклі з аблічча Зямлі і што на змену ім заступілі інтэнсіўна абробляльныя лясныя плантацыі, дзе пераважаюць дрэвы ўсяго некалькіх пародаў. Аднак было б вялікай нацяжкаю разумець пад абшарамі белавежскіх лясоў прасторы некранутага лесу ( да гэтае тэмы мы яшчэ вернемся асобна й не раз). Дадзены кантэкст дазваляе нам акцэнтаваць увагу на іншым: ніводны другасны лес, ніводная пасадка не здольныя параўнацца з пракаветнымі лясамі паводле багацця біялагічных формаў альбо экалагічнай значнасці. Гэтая думка аўтараў штогодніка прымушае нас запыніцца і паглядзець на многія айчынныя лясы, перш-наперш на Белавежскую пушчу, як на Вялікія Парэшткі Вялікіх Першародных Лясоў на тэрыторыі нашай краіны. І ўберагчы, абараніць тое, што засталося, не даць знікнуць "вобразам роднага краю" з аблічча Бацькаўшчыны і планеты.

У рэшце рэшт, як прадказваюць аўтары "Стану свету...", рынкавая кан`юнктура абумовіць паступовае вымяшчэнне вытворчасці лесаматэрыялаў за межы вячыстых лясоў. Аднак застаецца пытанне – якая частка сусветнай біялагічнай спадчыны ацалее пасля таго як перамяшчэнне завершыцца? Пакуль у Канадзе, ЗША ды іншых краінах вядуцца палкія спрэчкі пра тое, колькі прыродных лясоў трэба ўзяць пад ахову, з аблічча Зямлі сходзяць апошнія іхнія рэшткі. І што яшчэ горш, слушна заўважаюць аўтары штогодніка, у шматлікіх краінах такія дэбаты нават не распачатыя. Беларусь не выключэнне.Што мы, беларусы, б`ёмся ў кроў, каб захаваць нашы вельмі парадзелыя, але яшчэ не выбітыя дашчэнту старыя лясы, на жаль, не скажаш. "Родная" лясная індустрыя паўнаўладна гаспадарыць усюды, дзе ёй заўгодна, дзе лепшы кавалак, дзе можна на поўніцу зняць адзіназаразовы ўраджай драўніны. Адсутнасць заканадаўства, грамадскага кантролю і культуры тэхналогій дапамагалі церабіць шлях да мяжы спусташэння.

Аднак вернемся да справаздачы Інстытута назіранняў за станам свету. Амаль паўсюдна нарыхтоўкі лесу маюць тэндэнцыю абядняць, драбніць і нішчыць прыродную разнастайнасць лясных угоддзяў. Самым горшым і найбольш распаўсюджаным тыпам заняпаду з`яўляецца той, пры якім здабыча складаецца з інтэнсіўнае высечкі ў адным месцы і далейшага перамяшчэння ў новае, багацейшае на драўніну месца. Пошук чарговых тэрыторый з мэтай іх эксплуатацыі (лічы, спусташэння), як правіла, не абцяжараны разумным сэнсам.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*


SUMMARY

*The article calls upon the ecological community of this country to hold more active discussions on the role and protection of the primeval natural forests of Belarus. Data is cited from the almanac of an institute of observations of the state of the world (Washington). By the time the real value of such forests becomes universally recognized and apparent, it is uncertain how many of them will be left, the author admits with bitterness.*



# Свет калекцый Станіслава Жыўны

**Каб дзень знаёмстваў з Гародняю быў адмыслова ўдалым, турысты не прамінаюць мясцовы «музей прыроды»**



***Славу гораду, які 500 гадоў таму адным з першых на Беларусі займеў поўнае магдэбургскае права, прымножыла і адчыненая тут для наведванняў экспазіцыя дзівосных істотаў з калекцыі Станіслава Жыўны.***

***Адных толькі птушак, радасць сустрэчы і задавальненне ад выгляду якіх атрымалі тысячы жыхароў, налічвалася 340. І гэта была ўсяго частка збору!..***

***Хто ж ён, Станіслаў Жыўна? Краязнаўцы пакуль што даводзяць скупыя, занадта лаканічныя звесткі, якія толькі часткова пралiваюць святло на цікавую, неардынарную асобу.***

***Пакуль што...***

*Радаслаў Гараднянскі*

Нарадзіўся Жыўна ў Гародні ў 1892 годзе. Пошукі працы й заробку закінулі 16-гадовага гарадчука далёка ад радзімы: на наступныя 16 гадоў ягоным прытулкам стаў адзін са штатаў Паўночнай Амерыкі. Станіслаў змяніў некалькі спецыяльнасцяў. Прагна шукаў тое, да чаго хілілася б душа, што, апроч заробку, давала б выйсце ягонай натуры.

Нарэшце, знайшлася праца прэпаратара ў Віслеянскім універсітэце.







Станіслаў, бадай, не выпускаў з рук той або іншы прыродны матэрыял: вырабляў чучалы птушак, звяроў, збіраў шматлікія гербарыі. Часам выпраўляўся ў далёкія экспедыцыі, вяртаючыся з цікавымі экзатычнымі знаходкамі. З'явілася задума распачаць і сваю ўласную калекцыю. Геаграфія яе няспынна пашыралася: Амерыка, Афрыка, Аўстралія, Індыя, Антарктыда, Арктыка.

У 1924 годзе Станіслаў зноў на радзіме. І разам з ім ягоныя экзатычныя зборы, якія не маглі не зацікавіць мясцовых прыродазнаўцаў, шматлікіх натуралістаў. Неўзабаве калекцыя Жыўны стала набыткам горада — яе гаспадар і збіральнік вырашыў перадаць сабраныя скарбы дзеля шырокага доступу насельніцтва, асабліва вучнёўства. Падарунак налічваў 2933 назвы, сярод якіх было 17 відаў млекакормячых, 340 птушак, 749 марскіх жыхароў, 744 матылі, 344 мінералы ды інш. Калекцыя відочна прэтэндавала на музей, і ён быў створаны на базе перададзеных збораў. Гарадская рада прызначыла Станіслава Жыўну кіраўніком і захавальнікам музея. Для шырокага наведвання экспазіцыя адчыніла дзверы прыканцы 1926 года – 70 гадоў таму.

Фонды музея пачалі імкліва папаўняцца. Гэтаму, ў прыватнасці, спрыялі лесаахоўныя службы, з якімі Жыўна цесна пасябраваў, а таксама шматлікія аматары прыроды, уладальнікі прыватных калекцый. З'явілася нават ганаровая кніга дарчых папаўненняў, у якую заносіліся новыя і новыя імёны.

Станіслаў Жыўна заставаўся адзіным навуковым супрацоўнікам музея, паміж экспедыцыямі, экскурсійнай дзейнасцю шмат займаўся сістэматызацыяй і кансервацыяй фондавых збораў.

Усё, што было заснавана і папоўнена руплівым пачынальнікам, захавалася да нашага часу, складае багатыя фонды і экспазіцыю ў аддзеле прыроды Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.

Як і на самым пачатку, сёння тут часцей за ўсё ўбачыш цікаўную ды гаманлівую дзятву, стрыманых маладзенькіх жаўнераў. Каб дзень знаёмства з Гародняю быў удалым, сюды наведваюцца й турысты, госці горада. Калекцыі Жыўны даўно набылі самастойную рэпутацыю. Прычым не толькі дзівосна-рэдкіх, унікальных, але і найстарэйшых сярод ім падобных ва ўсёй Еўропе.



Фота: Алег Фёдараў (Гародня)

* *уверсе: тукан амерыканскі*
* *частка экспазіцыі; унізе — нільскі кракадзіл*
* *каралы*
* *ракавіны марскіх малюскаў*
* *матылі тропікаў; пасярэдзіне — самая вялікая з матылёў сатурнія-атлас*


SUMMARY

*Grodno Natural History Museum was opened 70 years ago. The museum's 2933 exhibits were Stanislav Zhivna's collections, which he gathered during his expeditions to different places around the globe. After Zhivna's return from North America, where he lived for 16 years, the owner of the collection presented it to his hometown. Today Zhivna's collection is part of the nature department of Grodno Museum of History and Archaeology.*

ПРАЧЫТАЎ – ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ «Б-П»

# Структуры дзяржаўнага рэгулявання, якія апякуюцца пытаннямі аховы навакольнага асяроддзя ў Беларусі

## Інфармацыя для кантактаў, зваротнай сувязі, іншых карысных стасункаў

*Шараговы чытач, мабыць, і не здагадваецца, якую армію службовага люду ўяўляюць сёння шматлікія дзяржаўныя структуры, у чые абавязкі — прама ці ўскосна — пастаўлена ахова навакольнага асяроддзя Беларусі. Іх, структураў, тымчасам даўно не дзесяткі, а сотні і тысячы. З кабінетамі, тэлефонамі, адпаведнай іерархіяй, бюджэтам, сталай бюракратычнай сістэмай, штатам. Пад рознымі назвамі гэтых структураў, нярэдка вельмі мудрагелістымі, схаваныя "сціплыя" віноўнікі іхняга слугавання, — паветра, якім мы дыхаем, вада, якую п'ём, дрэва, у ценях якога ходзім, трава, якая зелянее (пакуль на яе ўлонні не "пасадзілі" гараж).*

*Шараговы чытач, мабыць, і не здагадваецца, што ад кожнай такой структуры ён мае права атрымаць любую інфармацыю, калі звернецца туды з просьбай ці запытам. Скажам больш: ягонае запытанне мусіць быць прынятае там з удзячнасцю, нават з прабачэннем за тое, што пра сваю дзейнасць структура слаба інфармуе насельніцтва альбо неэфектыўна распаўсюджвае інфармацыю.*

*Мы ўжо не кажам пра элементарную зычлівасць з боку той ці іншай структуры, калі на кантактны тэлефон звернецца любы грамадзянін краіны; тэлефон — найпершая "інстанцыя", праз якую мы можам задаволіць свой грамадзянскі інтарэс, заявіць права на інфармацыю і зваротную сувязь, выказаць пратэст ці паведаміць пра парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.*

*Гэтыя правы і магчымасці замоўленыя ў многіх важных дакументах, якія падпісала наша краіна і якімі цяпер мусіць няўхільна кіравацца. Прыкладам, адна з апошніх і найбольш значных Канвенцый — аб біялагічнай разнастайнасці — артыкулам 13 прадугледжвае асвету і павышэнне дасведчанасці грамадскасці ў пытаннях захавання і ўстойлівага выкарыстання біяразнастайнасці, а таксама прапаганду пільных захадаў, якія дзеля гэтага прымаюцца.*

*Варта ўзгадаць і "Хартыю Зямлі", прынятую ў 1992 годзе, яе дзесяты прынцып: "На нацыянальным узроўні кожны чалавек мае адпаведны доступ да інфармацыі адносна навакольнага асяроддзя, якою валодаюць дзяржаўныя органы, уключаючы інфармацыю пра небяспечныя матэрыялы і дзейнасць, а таксама магчымасць браць удзел у працэсах прыняцця рашэнняў. Дзяржава развівае і заахвочвае інфармаванасць і дачыненні насельніцтва шляхам шырокага прадстаўлення інфармацыі. Забяспечваецца эфектыўны доступ да судовых і адміністратыўных разбораў, уключаючы кампенсацыю і сродкі судовай абароны". Калі, скажам, наш чытач па-грамадзянску зацікаўлены тым, на якія мэты быў выдаткаваны адзін мільён даляраў, ахвяраваных тры гады таму Сусветным банкам на развіццё біялагічнай разнастайнасці лясоў Белавежскай пушчы, ён можа звярнуцца да кіраўніка Праекта ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай даць яму падрабязную і праўдзівую інфармацыю на гэты конт. Згодна з патрабаваннямі толькі двух прыведзеных у якасці прыкладу міжнародных дакументаў, такая інфармацыя абавязкова павінна быць прадстаўленая.*

*Друкуючы кантактную інфармацыю пра найбольш важныя органы дзяржаўнага рэгулявання, якія апякуюцца пытаннямі аховы навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь, рэдакцыя кіруецца перш-наперш інтарэсамі чытацкай аўдыторыі, асабліва ў глыбінцы, дзе людзі часта не ведаюць, у які бок падаць свой заступніцкі голас. Карацей, гаворка ідзе пра магчымасць кожнага свядомага беларуса, жыхара краіны браць пасільны ўдзел у прыняцці рашэнняў, якія датычаць прыроднай спадчыны і стану крыніц жыцця.*

### Адміністрацыя Прэзідэнта
*220016 Мінск Карла Маркса 38*

| | |
|---|---|
| Прыёмная Прэзідэнта (у вечаровы і начны час працуе група дзяжурных) | 22—63—53 |
| Управа ахоўных тэрыторыяў, лясной і сельскай гаспадаркі | 22—39—01 |
| | 22—31—25 |
| | 22—38—03 |
| Начальнік | 22—38—75 |

### Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу
*220010 Мінск Дом урада*

| | |
|---|---|
| Прыёмная Старшыні | 22—60—04 |
| | 22—35—14 |

Камісія па праблемах Чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстання

| | |
|---|---|
| Старшыня | 22—61—85 |
| Намеснік Старшыні | 22—67—96 |
| Прыёмная | 22—65—64 |
| | 22—60—67 |

### Кабінет Міністраў
*220010 Мінск Дом урада*

| | |
|---|---|
| Прыёмная | 22—61—05 |
| Група дарадцаў Прэм'ер-міністра, дарадца па пытаннях аховы навакольнага асяроддзя | 22—63—66 |

### Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя
*220048 Мінск Калектарная 10*

| | |
|---|---|
| Міністр | 20—66—20 |
| Прыёмная | 20—66—91 |
| Першы намеснік міністра | 20—70—48 |
| Управа інфармацыі | 20—58—97 |
| | 20—45—45 |

***Аддзелы:***

| | |
|---|---|
| запаведнай справы | 20—46—16 |
| па кантролю за выкідамі ад прамысловых прадпрыемстваў | 20—60—48 |
| па кантролю за выкідамі ад перамяшчальных крыніцаў | 20—51—13 |
| маніторынгу і арганізацыі аналітычнага кантролю | 20—61—92 |
| па кантролю за выкарыстаннем водных рэсурсаў | 20—59—67 |
| па экалагічнай экспертызе праектаў меліяратыўнага і водагаспадарчага будаўніцтва | 20—74—75 |
| па размяшчэнню народнагаспадарчых аб'ектаў | 20—47—58 |
| па экалагічнай экспертызе праектаў водазабеспячэння, каналізацыі і аховы атмасфернага паветра | 20—94—74 |
| па кантролю за выкарыстаннем і аховай зямельных угоддзяў, лясоў і ландшафтаў | 20—51—92 |
| па кантролю за выкарыстаннем і аховай нетраў і тарфянога фонду | 20--71--90 |
| па кантролю за адходамі вытворчасці і спажывання | 20—61—21 |
| па кантролю за выкарыстаннем і аховай жывёльнага свету | 20—53—34 |

***Абласныя камітэты:***

| | |
|---|---|
| Брэст | 25—99—65 |
| | 25—61—63 |
| Віцебск | 5—66—70 |
| | 5--72--24 |
| Гомель | 53—41—93 |
| | 53—24—25 |
| Гродна | 47—15—82 |
| | 44—10—65 |
| Магілёў | 25—35—55 |
| Мінск (вобласць) | 36—49—57 |
| | 36—44—54 |
| Мінск (горад) | 45—82—18 |
| | 45—89—99 |

### Міністэрства па надзвычайных сітуацыях
*220055 Мінск Машэрава 23*

| | |
|---|---|
| Міністр | 27—58—63 |
| Прыёмная | 76—85—96 |
| | 27—58—71 |

### Камітэт рыбааховы
*220050 Мінск Камсамольская 8—18*

| | |
|---|---|
| Старшыня | 23—55—74 |
| Аддзел рыбааховы | 23—07—27 |

### Камітэт па зямельных рэсурсах
*220050 Мінск Камсамольская 8—18*

| | |
|---|---|
| Прыёмная | 26—74—40 |
| Старшыня | 26—70—90 |
| Аддзел арганізацыйна-прававога забеспячэння зямельнай рэформы і кантролю за выкарыстаннем і аховай зямель | 26—76—56 |

### Камітэт па гідраметэаралогіі
*220050 Мінск Камсамольская 16*

| | |
|---|---|
| Прыёмная | 23—56—63 |
| Цэнтр радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя *220023 Мінск пр.Скарыны 110-а* | 64—11—40 |
| Лабараторыя маніторынгу наземных экасістэм | 63—06—24 |

### Міністэрства абароны
*220034 Мінск Камуністычная 1*

| | |
|---|---|
| Прыёмная | 39—26—51 |
| Служба аховы навакольнага асяроддзя | 39—28—35 |

### Міністэрства статыстыкі і аналізу
*220658 Мінск Партызанскі пр. 12*

| | |
|---|---|
| Служба сацыяльнай статыстыкі ( у тым ліку статыстыкі, якая адлюстроўвае стан навакольнага асяроддзя) | 49—42—83 |

### Беларуская дзяржаўная фірма "Другасныя рэсурсы" ("Белвторрэсурсы")
*Мінск Дзянісаўская 33*

| | |
|---|---|
| Генеральны дырэктар | 21—95—91 |

### Прыродаахоўная пракуратура

***Мінская міжраённая***
*220086 Мінск Славінскага1 корпус 2*

| | |
|---|---|
| Пракурор | 63—59—07 |
| Намеснік пракурора | 65—18—41 |

***Гомельская***
*246035 Гомель Народнага апалчэння 16*

| | |
|---|---|
| Пракурор | 51—50—34 |
| | 51—50—40 |
| | 51—51—36 |

***Магілёўская***
*212040 Магілёў Маўчанаўскага 4*

| | |
|---|---|
| Пракурор | 42—96—65 |
| | 21—64—21 |

### Сакратарыят Міждзяржаўнага экалагічнага савета(МЭС)
*220002 Мінск В. Харужай 31-а*

| | |
|---|---|
| Выканаўчы сакратар | 34—65—22 |
| Галоўны эксперт | 76—92—59 |

### Міністэрства лясной гаспадаркі
*220039 Мінск Чкалава 6*

| | |
|---|---|
| Міністр | 24--47--02 |
| Прыёмная | 24--47--05 |
| Управа дзяржаўнага кантролю аховы і абароны лесу | 24--19--35 |
| Управа лясной і паляўнічай гаспадаркі | 24--59--06 |

*Дзяржава развівае і заахвочвае дасведчанасць і дачыненні насельніцтва шляхам шырокага прадастаўлення інфармацыі.*

*Хартыя Зямлі.1992*

SUMMARY

*The addresses and telephones of belarusian institutions and governmental departments working in the field of nature, p.8, 9.*



# Адгарні назад...

## Па старонках папярэдніх выпускаў

<u>1995,№1. *Р у б р ы к і: Тут, Bos urus (Зубр), Асоба, Патрыётыка, Альбом, Мартыралог,Твой востраў, Глыбінная экалогія.*</u>

*Запаведнік-парк.* Гістарычная панарама Пушчы ад 983 года — першага ўпамінання (Іпацеўскі летапіс) — да нашых дзён.

*Слава беларускай фауны ў вянку белавежскай флоры.* Выразнымі штрыхамі малюецца партрэт зубра, даецца характарыстыка ягоных паводзінаў, звычак.

*Пушчанскія ельнікі.* Умовы й асаблівасці росту.

*" К".* Спадчына Яна Ежы Карпінскага — дырэктара запаведніка,прафесара, апантанага фатографіка. Вернісаж 9 фотаздымкаў Пушчы.

*О пущах, о ловах, о бортном дереве, об озерах и лесах.* Дзесяты раздзел Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588.

*"Цёплае, часам вельмі гарачае пачуццё да нашае роднае стараны."* Старонкі з "Геаграфіі" Аркадзя Смоліча.

*Гісторыя з вадзяным млынам.* Фатаграфіі з сямейнага альбома. (Маладзечанскі раён).

*Дзікі бэз.* Настальгічныя ўвагі прылеснага жыхара (Стоўбцы — Гародзей — Нясвіж)

*Гаючая ласка дрэва*. Пра энергетычныя магчымасці дрэў, тэхніку зносін "чалавек — дрэва".

<u>1996, №2. *Р у б р ы к і: Тут, Па-над межамі, Жорсткія стасункі, Лад, Лес — лёс, Засцярога, Белая вежа, Дзень Зямлі, Глыбінная экалогія.*</u>

*Сляды на прасеках.* Падлічка звяроў па парошы — адметная з'ява ў зімовай Пушчы.

*На лыжах па грыбы.* Расповяд пушчанскага міколага Паўла Міхалевіча пра калядныя грыбныя мясціны.

*Знак прысутнасці, знак гармоніі.* Карцінай *"Елаўстонскі нацыянальны парк. Бізоны"* амерыканская мастачка беларускага паходжання Тамара Стагановіч засведчыла сваё стаўленне да прыроды як да Боскае з`явы.

*Мы прыйшлі да такога стану , што кампрамісаў не можа быць.* Беларуская "глыбінка" зведвае маштабны наступ на жывую прыроду. Інтэрв'ю з раённым інспектарам па экалогіі (Івацэвіцкі раён).

*Уолдэн, альбо Жыццё ў лесе.* "Зімовыя" мясціны з кнігі Генры Дэйвіда Тора ў перакладзе з ангельскай мовы.

*"Перадаю рукапісную кнігу пра лес".* Публіцыстычныя нататкі А.Мушга (Швейцарыя) з нагоды стварэння ўнікальнай кнігі на пергамінавых старонках.

*Спакон веку беларусы ратавалі лес. Ці ўратуем ягоныя рэшткі?* Рэпартаж, прэвентыўная рэклама "Пакінем запалкі дома".

*Дзень Зямлі.* Гэты дзень у апошняй дэкадзе красавіка па ўсім свеце штогод адзначаецца як дзень агульнай дзейнай патужнасці ў абарону навакольнага асяроддзя .

<u>1996, №3. *Р у б р ы к і: Тут, Этнас, Патрыётыка, Лес — лёс, Нерушы, Зялёны фронт, Дзень зямлі, Твой востраў, Кветкі раю, Ніша, Мартыралог, Глыбінная экалогія.*</u>

*Пажар у Пушчы.* Ён здарыўся 185 гадоў таму і доўжыўся чатыры месяцы запар.

*"Я не пішу гісторыю, я яе збіраю".* На пошук яцвяжскіх слядоў археолаг адправіўся ў Пушчу.

*"Прыснёны сад" Яна Баршчэўскага.*Такой паўстае перад аўтарам Паўночная Беларусь.

*Волат з добрай багатай душой.* Паніжэнне вады ў беларускіх грунтах пагражае лясам, нясе небяспеку іх вынішчэння.

*Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку прысвоены Еўрапейскі Дыплом.* Прэстыжная ўзнагарода падвышае ступень экалагічнай дысцыпліны, на якую пастаўлена ўся краіна .

*Беларусь — дом са шклянымі сценамі?* Зварот 18 грамадскіх арганізацый да Прэзідэнта краіны А. Лукашенкі. Каментарый.

*Сад Габрыэля ў ландшафце Еўропы і Беларусі.* Як жыхар Германіі пасадзіў на ўспамін беларусам гектар лесу.

*Калі чалавек заблудзіўся ў жыцці, ён заблудзіцца і ў лесе.* Уладанні ляснога бога, нагадваюць "рэанімацыйныя кабінеты", дзе карысна час ад часу бываць кожнаму.

*Кветкі раю.* Канюшына лугавая. Чаромха. Вятроўнік вязалісты.

*З жыцця лугавога шуляка.* Сям'ю птушкі аўтар назіраў з вясны да восені.

*Ад якога скарбу мы адракаемся?* Знікненне "малых радзімаў" — вёсак, хутароў, сядзібаў, на думку аўтара, ёсць вынікам антыгуманнай ідэалогіі.

*Спроба медытацыі на дзвюх мовах.* Паэма "Новая зямля" Якуба Коласа пабеларуску і па-польску.

Святлана Алексіевіч

# Пейзажы без чалавека

## Фрагменты з новай кнігі

*"Раней я вандравала па чужых пакутах, а цяпер я сама такі ж самы сведка", – напісала ў споведзі перад чытачом Святлана Алексіевіч. Сваю новую працу яна назвала "Чарнобыльская малітва. Хроніка будучыні". Слова пісьменніцы зноў адгукаецца на боль, які чалавецтва спаўна не адчула, а ў чымсці і не заўважыла . Застаюцца пытанні. Шмат пытанняў. І застаецца таямніца, невядомасць: а што такое Чарнобыль? Ці не задачка на XXI стагоддзе? Святлана Алексіевіч сведчыць, спрабуючы даць адказ.*

**"Вёска пустая... А ўсё жыве!"** *(расказвае Зінаіда Еўдакімаўна Каваленка, самасёл)*

"Сярод ночы на двор зайшоў воўк... У акно глянула — стаіць і свеціць вачыма... Фарамі...

Я да ўсяго прывыкла... Сем гадоў жыву адна, сем гадоў як людзі адсюль паехалі... Ноч, бывае, сяджу, пакуль не развідніцца, і думаю, думаю. Успамінаю... І сёння ўсю ноч прасядзела кручком на ложку, а потым выйшла паглядзець, якое сонейка. Што я вам скажу? Самая справядлівая рэч на свеце смерць. Ніхто яшчэ не адкупіўся. Зямля ўсіх прымае: і добрых, і злых, і грэшнікаў...

Першы раз сказалі, што ў нас радыяцыя, дык мы думалі: гэта хвароба нейкая, хто захварэе — адразу памірае. Не , кажуць, нешта такое, што на зямлі ляжыць і ў зямлю лезе, а ўбачыць не ўбачыш. Чалавеку не відаць. Звер, можа, бачыць і чуе, а чалавек не. А гэта няпраўда!.. Гэты цэзій у мяне на агародзе валяўся, пакуль дождж яго не намачыў. Колер такі хімічны... Чарнільны. Ляжыць у кавалачках, пераліваецца. Прыбегла з калгаснага поля, пайшла на свой агарод... І такі кавалачак сіні... А праз дзвесце метраў яшчэ адзін... Велічынёю з хусцінку, што ў мяне на галаве. Крыкнула я суседцы, бабам, мы ўсё тут абегалі. Усе агароды, поле навокал... Гектары два. Можа, чатыры вялікіх кавалкі знайшлі... А яшчэ быў чырвонага колеру. Назаўтра пайшоў дождж. З самай раніцы. Прыехала міліцыя. А ўжо не было чаго нам паказаць. Толькі расказвалі...

Во! Паглядзіце ў акно — сарока прыляцела... Я іх не праганяю... Хоць бывае, што сарока ў мяне яйкі цягае з хлеўчыка. Усё роўна не праганяю. Нікога не праганяю! Учора заяц прыбягаў...

Я ўсё вам прыпомню...Ляцяць самалёты й ляцяць. Кожны дзень. Нізка-нізка. Ляцяць на рэактар,на станцыю. Адзін за адным. А ў нас тут перасяленне. Эвакуацыя. Штурм! Штурмуюць хаты. Людзі пазачыняліся, пахаваліся. Скаціна раве, дзеці плачуць. Вайна! А сонейка свеціць...

Мой гаспадар любіў сказаць, што чалавек страляе, а бог кулі носіць. Каму які лёс! Маладыя, што паад'язджалі, каторыя ўжо паўміралі. На новым месцы. А я з кіёчкам — хаджу. Тупаю. Маркотна зробіцца, паплачу. Вёска пустая... А птушкі тут усялякія... Лётаюць... І лось ідзе хоць бы што...

Я ўсё ўспамінаю... Людзі пад'язджалі, а кошак і сабак пакінулі. Першыя дні я хадзіла і разлівала ўсім малако, а кожнаму сабаку давала хлеба. Яны стаялі ў сваіх дварах і чакалі гаспадароў. Доўга чакалі людзей. Галодныя кошкі елі агуркі... Памідоры елі...

Была гісторыя... Быў у мяне добры котка. Васька. Зімой галодныя пацукі напалі, рады было не даць... Пад коўдру лезлі... Збожжа ў бочцы — дзірку прагрызлі. Дык Васька ратаваў... Без Ваські я прапала б... Мы з ім пагаворым, паабедаем. А тады мой Васька... Можа галодныя сабакі дзе напалі ды з'елі? Яны ўсё бегалі галодныя, пакуль не паўміралі, кошкі былі такія галодныя, што кацянят елі, летам не елі, а зімой. Даруй, Госпадзі! А адну бабу пацукі загрызлі... Рыжыя пацукі... Праўда ці не, а баюць...

Бомжаў тут носіць... Першыя гады дабра хапала... Кашулі, кофты, шубы... Бяры і вязі на барахолаўку... Вось нап'юцца, песні спяваюць. Мат-перамат. Адзін зваліўся з ровара і заснуў на вуліцы. Раніцай дзве костачкі знайшлі і ровар. Праўда ці не? Не скажу. Баюць...

Тут усё жыве. Ну ўсё-ўсё! Яшчарка жыве, жаба жыве. І чарвяк жыве. І мышы ёсць! Усё ёсць! Асабліва вясной добра. Я люблю, калі бэз цвіце".



Уладзімір Бліноў.
Серыя "Пасля Чарнобыля"

**"Часам знаходзілі там людзей. Верная прыкмета: стаіць знак "Высокая радиация. Вход запрещен", а за гэтым знакам – зялёнае жыта... Жывуць там па-свойму, у руках чалавека толькі сякера, рыдлёўка. Свет пасля тэхналогіі. Як сто або дзвесце гадоў таму, сядзяць пры лучыне ці лямпе-газоўцы. Жнуць сярпом, косяць касой, малоцяць цэпамі. Забыліся, пры якой уладзе жывуць і ў якой дзяржаве. Жывуць...Сцерагуць прошласць,свойчас...**

***Інтэрв' ю аўтара з самім сабой***

**"Мы дзейнічалі як карнікі. Па той жа схеме"** *(расказваюць старшыня Хойнікскага дабраахвотнага таварыства паляўнічых і рыбаловаў Віктар Іосіфавіч Вержыкоўскі і паляўнічыя Андрэй і Уладзімір, якія не пажадалі назваць прозвішчы)*

"Значыць,такая справа... Выклікае мяне старшыня райвыканкаму:"Слухай, галоўны паляўнічы: у зоне засталося шмат свойскіх жывёлін —кошкі, сабакі. Каб не допусціць эпідэміі, іх трэба адстраляць. Дзейнічай!" Назаўтра я склікаў усіх паляўнічых. Так і так... Ніхто не хоча ехаць, бо не выдалі ніякіх ахоўных сродкаў... Ніводнага распіратара. Прыйшлося ехаць на цэментны завод, браць маскі. Такая тоненькая плёначка на носе...Ад цэментнага пылу...

Скалаціў дзве брыгады... Па дваццаць чалавек. З ветурачом і чалавекам з санэпідстанцыі. Быў яшчэ трактар з каўшом і самазвал.

... Ездзілі мы па зоне два месяцы. У нашым раёне палову вёсак вывезлі. Дзесяткі вёсак: Бабчын, Тульгавічы... Дзесяткі. Першы раз прыехалі – сабакі бегаюць каля сваіх хат. Сцерагуць. Людзей чакаюць. Убачылі нас, узрадаваліся, бягуць на чалавечы голас... Стралялі ў хаце, у хляве. На агародзе. Выцягвалі на вуліцу і грузілі ў самазвалы. Непрыемна, канешне. Яны не маглі зразумець: чаму іх забіваем? Забіваць было лёгка... Свойскія жывёліны... У іх няма боязі зброі, боязі чалавека, бягуць на чалавечы голас..."

"Паўзла чарапаха... Госпадзі! Паўз пусты пакінуты дом. Акварыумы ў кватэрах стаялі... З рыбкамі..."

"Спачатку дамы стаялі апячатаныя, з пломбамі. Пломбы мы не зрывалі. Сядзіць за акном кошка, як ты яе дастанеш? Сядзіць. Не чапалі. Пакуль марадзёры не палезлі – дзверы павысаджвалі, вокны разбілі, люфцікі. Разрабавалі. Спачатку зніклі магнітафоны, тэлевізары. Футра рознае. А затым падчысцілі ўсё... Валяюцца на падлозе адны толькі алюмініевыя лыжкі... І ацалелыя сабакі перасяліліся ў дом...Заходзіш – ён на цябе... Перасталі ўжо людзям верыць... Давяраць... Я параўноўваў... Мы дзейнічалі... як карнікі. Па той жа схеме... Ваенная аперацыя... Мы таксама прыязджаем, бярэм вёску ў кальцо, і

сабакі, як толькі пачулі стрэл, ужо бягуць. Кошкі. Кошкі хітрэйшыя, ім лягчэй схавацца. Кацяня ў гаршчок залезла... Я яго вытрасаў... З-пад печкі выцягваў... Прыкрае пачуццё... Ты ў хату, а кошка куляю ў ногі, бегаеш за ёю з ружжом. Худыя, брудныя. Поўсць уся ў касмылях. Вылезла. На першым часе было шмат яек, куры пазаставаліся. Сабакі і кошкі елі яйкі, закончыліся яйкі, з`елі курэй. І лісы курэй елі. Разам з сабакамі. Значыць , курэй не стала, сабакі паелі кошак. Бывалі выпадкі, што мы ў хлявах свіней знаходзілі... Выпускалі...У паграбах закатак розных. Агуркі. Памідоры... Мы адчыняем і ў карыта ім кідаем. Свіней не забівалі..."

"Я ніяк не мог зразумець, адкуль такі пах у вёсцы. Шэсць вёрст ад рэактара... Вёска Масалы... Як у рэнтгенкабінеце. Пахла ёдам... Нейкаю кіслатою...Страляць даводзілася ва ўпор... Ляжыць пасярэдзіне хаты, шчанюкі кругом. Накінулася на мяне – кулю адразу... А шчанюкі ліжуць рукі, лашчацца. Дурэюць. Страляць даводзілася ва ўпор... Аднаго... Пудзялёк чорненькі... Мне яго дагэтуль шкада. Нагрузілі іх поўны самазвал. З верхам. Вязём на " могільнік". Па праўдзе, які гэта "могільнік", проста глыбокая яма, хоць трэба было капаць так, каб не дастаць грунтовай вады. І ўсцілаць дно цэлафанам. Паводле інструкцыі... Але гэтае дзела, самі разумееце, усюды парушалася. Цэлафана не было. І месца доўга не шукалі. Высыпалі іх з самазвала ў яму, а гэты пудзялёк караскаецца. Вылазіць... Ні ў кога патрона не знайшлося. Спіхнулі ў яму ды так зямлёй і засыпалі."

"Гэта няпраўда што ў жывёлін няма свядомасці і яны не думаюць. Казуля параненая... Ляжыць... Яна хоча, каб яе пашкадавалі, а ты дабіваеш. У апошнюю мінуту ў яе поўны сэнсу, амаль чалавечы пагляд. Яна цябе ненавідзіць. Або мальба: і я хачу жыць!"

"Ідзе карова з цяляткам. Не стралялі. І ў каня не стралялі. Яны баяліся ваўкоў, чалавека не баяліся. Першымі гінулі ад ваўкоў каровы. Па закону джунгляў."

"З Беларусі жывёлу везлі і прадавалі ў Расію. А цяляты лейкозныя. Затое па дзяшоўцы збывалі."

"Больш за ўсё шкада старых. Яны падыходзяць да нашых машын:"Паглядзі ты там, хлопчык, на маю хату". Ключ у рукі соваюць: "Забяры касцюм. Шапку." Грошы даюць. "Як там мой сабака?" Сабаку прыстрэлілі. Дом абрабавалі. А яны ніколі туды не вернуцца. Як гэта сказаць? Я ключы не браў. Не хацеў падманваць. Іншыя бралі: "Дзе самагонку схаваў? У якім месцы?" Дзед і скажа..."

"Папрасілі на вяселле забіць дзіка. Заказ! Печань у руках распаўзаецца... усё роўна заказваюць... На вяселле... На хрэсьбіны..."

"Я размаўляў з шафёрам, які вывозіў хаты адтуль. Крадуць. Вывозяць... Пад`язджаюць на КамАЗе, за тры гадзіны дом разбіраюць, а каля горада іх перахватваюць. Рвуць на часткі. Для дачы... Зону раскупіліі на дачы... Вось так..."

**"Мы выпалі ў іншы час...Свет зрабіўся яснейшы. Раптам заўважылі, што ўсе мы жывём побач. Нас можа не быць усіх. Усяго жывога! Ад мураша да чалавека. Пачынаеш пільна ўглядацца навокал... Цікава не толькі, што думае, як пачувае сябе чалавек – той альбо іншы, але і што творыцца з дрэвам, птахам, травою. Іхні свет раптам зблізіўся з нашым, мы і яны як бы паяднаіся ў адным часе — ў адным жыцці. Зрушваюцца, перабудоўваюцца пачуцці. Адбываецца іхняе пераўтварэнне. Здарылася штосьці такое, перад чым мы няздатныя – не маем ані сістэмы ўяўленняў, ані аналагаў, ані досведу і да чаго не прыстасаваныя ні зрок наш, ні нашае вуха і нават слоў адпаведных не стае ў лексіконе. Усё таямніца. Каб нешта спасцігнуць, зразумець, чалавеку трэба выйсці за межы самога сябе.**

***Інтэрв'ю аўтара з самім сабой***



**"...А навокал месячныя ландшафты. Ужо з будучыні. Верхні пласт зямлі – на дзесятках гектараў – зняты, замест яго ўсё засыпана дапамітавай мукой. Бяжыць, аддаляецца за гарызонт незямное поле. Ужо ў цемры пасярод вёскі напароліся на помнік Леніну. Стаіць, адзін, на мёртвай зямлі... З хаты насупраць выскачыў раптам дзік, за ім другі. У чалавечым жытле пасяліліся звяры. Дык вось ты якая, вечнасць?**

**У белай квецені сады... Быццам накрыты стол без гасцей... І вясковая вуліца без чалавека. Поле без чалавека. Дарога ў нікуды. Правады ў нікуды."**

***Інтэрв'ю аўтара з самім сабой***

SUMMARY

*The famous writer Svetlana Aleksievich has finished work on a new documentary book "The Chernobyl Prayer — Chronicles of the future". We present extracts from her book under the headline "Scenery Without Man". Photographs by Vladimir Blinov from the "After Chernobyl" series also shown are, p.10, 11.*

# Перспектыва будаўніцтва АЭС на Беларусі акрэслілася яшчэ больш

***Віталь Прошча***

*крушна прадбачыць, але падобна, з нас хутка зноў пасмяецца свет, і зноў гэты смех не будзе вясёлым. Гэтак у класе смяюцца з вучня, які не засвоіў урок і перад усімі паказвае сваё нічым не прыхаванае невуцтва.*

*Будаўніцтва атамнай электрастанцыі на Беларусі будзе ўспрынятае ў свеце менавіта як непадрыхтаванасць або адступленне ад нармальнага сэнсу, бо цывілізаваны свет сёння ратуецца ад усялякіх аб'ектаў на ядзерным паліве ў сваім доме, а мы гэты аб'ект вырашылі пасадзіць. Ды хто — мы?! Беларусь, якая зведала Чарнобыль, займела ўвесь букет наступстваў ядзернай катастрофы. Тымчасам перспектыва будаўніцтва "сваёй" АЭС робіцца ўсё больш рэальнай ды выразнай. Ужо ўлетку зялёнаму агенцтву "Нерушпрэс" было вядома, што выбар пляцоўкі звузіўся да памераў абшару ў 520 квадратных кіламетраў, які ахоплівае Шклоўскі, Горацкі й Дубровенскі раёны. Аднак хацелася думаць, што пошукі беларускіх геафізікаў застануцца на ўзроўні эксперыменту і будуць скарыстаныя на што-небудзь іншае. Надзеі не спраўдзіліся. Прыканцы года міністр паліва і энергетыкі Валянцін Герасімаў пацвердзіў намеры Беларусі будаваць АЭС , праўда, замест Горацкага сярод астатніх двух быў названы Быхаўскі.*

*Спрэчка паміж ядзершчыкамі, якая вядзецца не першы год, сёння набыла міжнародную актуальнасць. Не адно з-за Чарнобыля, але таму, што шэраг дзяржаваў лічаць іх вельмі стратнымі і не хаваюць свой горкі досвед перад іншымі. Але на тым жа міжнародным узроўні існуе магутнае атамнае лобі, якое не спяшаецца згортваць свае ядзерныя праекты, а як мага шукае новыя пляцоўкі сярод маладасведчаных прасцячкоў, ахвотных да крэдытных прыманак. Так гэта ці не так у нашым выпадку, застаецца хіба што здагадвацца, бо вакол такога будаўніцтва як АЭС туман рассейваецца толькі тады, калі яно заканчваецца і настаюць вялікія праблемы.*

*Не сакрэт, што ядзерныя магутнасці з'яўляюцца праблемай для навакольнага асяроддзя. Але ўжо ёсць відавочным іншае: паводле ацэнак экспертаў, ядзерная энергетыка знаходзіцца на краі эканамічнага краху. Яна недзеяздольная ў сучасным адкрытым рынку. На думку выбітнага расійскага вучонага Яблакава, сёння няма больш такой "бруднай" тэхналогіі з такім нізкім каэфіцыентам карыснага дзеяння, як атамная.*

*Перасцярогаў шмат. Нават так шмат, што экалагічны авантурызм аўтараў прынятага рашэння выглядае відавочным. Няўжо патрэбны яшчэ адзін Чарнобыль , каб людзі канчаткова адхіснуліся ад атамнай энергетыкі? — гэтае досыць агульнае пытанне, якое ўсё часцей задае свет, для нас, беларусаў, гучыць найменш агульна, чым для каго іншага.*

# Успомніце «леташні снег»: 100, 200... — 1000 зімаў таму!

## З гісторыі прыроды і клімату паводле тысячагадовага летапісу экстрэмальных умоў надвор`я

*Калі здараецца бясснежная, мярзотна-слотная зіма альбо халоднае, з бясконцымі дажджамі лета, мы схільныя думаць, што настаюць змены, якіх дагэтуль не бачыў свет. Аднак падумкі нашыя часцей за ўсё спадманныя, перабольшаныя, прынамсі, на фоне ўнутрывяковых ваганняў клімату, засведчаных летапісцамі на працягу стагоддзяў. І калі пішуцца гэтыя радкі, яшчэ цяжка меркаваць, якой, напрыклад, будзе цяперашняя зіма ў параўнанні з леташняй, ранняй ды снежнай, а да ўсяго яшчэ і працяглай. Можа, каб лягчэй спрагназаваць наступнасць, давайце ўспомнім ”леташні снег”, звернемся да хронік, у якіх яскрава, хоць і лаканічна, люструюцца з”явы далёкай мінуўшчыны (пераважна на тэрыторыях, куды ўваходзіла альбо з якімі суседнічала Беларусь).*

*УВАГА ! Рубрыка “Летапіс” запрашае да ўдзелу ўсіх, хто назірае прыроду: піша дзённік ці хавае ў памяці адметныя з`явы, мае выкшталцоны фотазбор альбо спрабуе заўважанае перадаць на малюнку. А яшчэ ў кожнай вёсцы, нават сям`і знойдуцца старыя людзі, так званыя “памятукі”, якія ўспомняць шмат чаго, што нідзе, апроч іх, не пакінула следу. “Летапісная старонка” чакае вашых сведчанняў, успамінаў, “надзвычайных” фіксацыяў. Толькі пазначайце мясцовасць і час ды не забудзьце паставіць сваё імя.*

| год | |
|---|---|
| **995** | Незвычайна халодная зіма ў паўночных краінах Еўропы, трэба думаць, і на Белай Русі. |
| **1000** | На ўсім зямным шары 29 сакавіка вялікі землятрус. У Кракаве разбурана шмат будынкаў. |
| **1011** | Жорсткая зіма ў Еўропе. Замёрз Басфор. Лёд на Ніле. |
| **1020** | Вялікія маразы. Працяглая зіма. Людзі замярзалі на дарогах. |
| **1047** | Позняя вясна назіралася ў Германіі, глыбокі снег ляжаў яшчэ ў сакавіку. Балтыйскае мора. Суровая зіма: “...ваўкі з Нарвегіі перабягалі ў Данію па лёдзе”. |
| **1056** | Мяккая зіма. |
| **1057** | Вялікія маразы, моцныя снегапады. |
| **1060** | Снежная зіма, пад час якой наступалі адлігі з моцнымі паводкамі і чалавечымі ахвярамі. |
| **1067** | На Белай Русі ў часе паходаў Яраслававічаў — Ізяслава, Святаслава і Ўсевалада — стаяла жорсткая вялікая зіма. У часе бітвы на Нямізе “снег велик был”. |
| **1077** | На заходнерускіх землях жорсткая зіма. Павымярзалі пасевы азіміны і сады. |
| **1092** | Вяртанне маразоў у красавіку. Глыбокі снег. |
| **1098** | Мяккая зіма. Паводкі. Дажджы. |
| **1101** | Землятрус у Кіеве: “...едва церкви устояли, а вреда много учинилось. Кресты с церквей попадали.” Суровая зіма ў Еўропе. |
| **1110** | Навальніцы сярод зімы. ( Кіеў, 11 лютага). |
| **1119** | Вялікія паводкі зімой. Сухмень увесну (сакавік — травень). |
| **1122** | Мяккая бясснежная зіма. |
| **1125** | Суровая зіма. Прыканцы траўня выпаў вялікі снег і адбылося павяртанне маразоў: “...дрэвы й трава замерзлі.” Лета сырое. Няўрод. Вялікі голад у Польшчы(1125 — 1126). |
| **1126** | Суровая ды снежная зіма. Птушкі замярзалі на ляту. |
| **1128** | Летам, калі яравыя сама цвілі і налівалася азіміна, ад маразоў усе пасевы загінулі, што сталася прычынай вялікага голаду. |
| **1130** | Зіма халодная. Гарачае лета. Гарэла зямля. У Эльзасе высах Рэйн. |
| **1133** | Халодная ды снежная зіма. Лета сырое, з вялікімі зменамі надвор’я. Паводка падчас жніва. |
| **1135** | 10 снежня: “Прагрымеў гром і нарабіў многа шкоды”. |
| **1163** | Добры ўраджай. Восень з моцнымі маразамі. Сырая зіма з дажджамі, маланкамі,громам |
| **1174** | Мяккая зіма, частыя адлігі. Вясна халодная і з вялікай вадой. |
| **1179** | Доўгая зіма, халады ў сакавіку — красавіку. |
| **1187** | На Чарнігаўскай зямлі жорсткія маразы: “ На ту осень бысть зима зла вельми,такая же в нашей памяти не бывало николи же” (аж да вербнага тыдня). Вялікі снег у раёне Дняпра. У Польшчы моцныя снегапады. У Заходняй Еўропе з сакавіка па чэрвень лютыя халады, 7 траўня яшчэ ляжаў снег. |
| **1190** | Сырая, цёплая зіма, рана сышоў снег: ”...бысть тепло и стече снег”. Галодны год. |
| **1195** | Вялікі снег зімой... |



*Паводле кнігі: “Тысячагадовы летапіс надзвычайных з'яў прыроды”, Масква, 1988*





*Вываратні (ды яшчэ такія казачныя, як на здымку Аляксея Мацюша) звычайна ёсць вынікам-следам моцнага ветру ці навальнічнай аблады. Кожны — своеадметны знак на ўлонні раскутай прыроды, яе трыумф, яе аўтограф... Асабліва зімой, калі пад шапкамі снегу выварацень нагадвае хатку, будан ці схоў.*

**Нацыянальны парк “Прыпяцкі”*

## Да першай адлігі

**Людміла Дворак**

(Нацыянальны парк, батанік)

*Глуха шуміць лес, маўкліва ды пуста ў полі і лузе. Бывай да вясны, дзівосная краса цвіцення! Дарэмна блукаць па лесе, шукаць запозненых кветак. Але жыву надзеяй, што злітуецца зіма, памякчэе яе ледзяное сэрца і выдасца працяглая адліга. Чорнымі плямкамі азначыцца адталая зямля і... зацвітуць кветкі.*

*Не верыце? Зазірніце ў свой агарод. Ды ўважліва прыглядайцеся. Бо не адразу кідаюцца ў вочы маленькія зорачкі макрыцы, мініяцюрныя фіялачкі-браткі, невялікія красачкі стрэлак. Цвіце — пустазелле. Дзіўныя гэта расліны. Стукне мароз — заледзянеюць дазвання, а прылашчыць іх сонейка — быццам і не зіма на двары: кветкі цвітуць, плады спеюць. І якія прыгожыя! Тая ж дасканаласць формаў, што ва ўсіх кветак зямлі, а галоўнае — яны жывыя! Жывыя да апошняй жылачкі.*

*Дзіву даюся: колькі іх праклінаілі ды праганялі, а яны такія трывушчыя. Цягнуцца следам за чалавекам, і няма на іх паратунку. Таму й засталіся на нашым агародзе — тыя, што маюць доўгія моцныя карэнішчы, як пырнік ці асот, альбо даюць шмат насення, як лебяда. Засталіся і тыя, што цвітуць, пладаносяць і прарастаюць амаль круглы год: макрыца, браткі, яснотка пурпуровая, стрэлкі.*

*Вось яна — маленькая кволая расцінка — знак неўміручасці і супрацьстаяння нягодам. Нахіляюся над жывой мікразорачкай макрыцы, даверліва растуленай пад промнямі зімовага сонца... Няхай жыве жыццё!*

SUMMARY

*Starting from 995, historical records inform the reader about the peculiar alternation of climatic anomalies in Europe. From the depths of time, they show curious data about the nature of bygone winters and summers.*

# Вы - дрэва, вы - крона...

## Каб папоўніць запас жыццёвай энергіі, не абавязкова ехаць далёка з дому. Паспрабуйце адзін з варыянтаў «хатняга» энергасілкавання

*Уладзімір Галубкоў*

Трыццаць гадоў таму амерыканскі паліцэйскі Клеў Бакстэр, адмыслоўца па дэтэкцыі маны, паспрабаваў злучыць электрод свайго апарата з лісцікам расліны. І вось – дзіва! Стрэлка дэтэктара ўраз абудзілася, а малюнак "лініі ўспрымання" мала чым розніўся з графікай эмацыйна ўзбуджанага чалавека. Дослед засведчыў: расліна мае "памяць", а паміж яе клеткамі і нервовай сістэмай чалавека існуе сувязь і "ўзаемаразуменне".

Дарэчы ўзгадаць тут і гумар нямецкага доктара, фізіка й філосафа Густава Фехнера, які, баронячы словам расліны ад чалавечай бяздушнасці і прагматычнага стаўлення, выказаўся так, нібыта " адным з прызначэнняў чалавечага цела, магчыма, было ягонае слугаванне жыццю раслін, пры якім чалавек аддзяляе вуглякіслы газ, а сябе аддае на спажыву пасля сваёй смерці".

На жарт Фехнера можна адказаць усмешкай і... пагадзіцца з "жалезнай" логікай аўтара. Тым часам Фехнер быў блізкі да поглядаў вядомага паэта і вучонага-батаніка Іагана Гётэ. Апошні ў сваёй магістральнай "Метамарфозе раслінаў" надаў зелёнай істоце надзвычай дынамічны вобраз, чым пераканальна засведчыў адчувальнасць і звышадчувальнасць загадкавых персанажаў.

Гэткая ўласцівасць раслінаў, іхняя здольнасць выяўляць "розум" і "памяць" былі вельмі рана вядомыя аматарам прыроды, якія ўмелі "падгадваць" настрой ды схільнасці раслінаў. З іх "лёгкай рукі" ўсё расло-буяла, а вынік звычайна асляпляў здзіўленых пачаткоўцаў.

Шматлікія эксперыменты, доследы паказалі, што расліны могуць вельмі добра распазнаваць людзей: і тых, хто з імі абыякава-грэблівы, непрыязны, і тых, хто з пачуццём прыхільнасці ладзіць з імі стасункі, прыйшоў з добрым адкрытым сэрцам. У рэшце, рэакцыя раслін выяўляе шмат агульнага з рэакцыяй свойскіх жывёлін.Садаводы, кветкаводы і агароднікі, такім чынам, маюць рэальны шанец палепшыць вынікі сваёй руплівай працы без зменаў агратэхнікі.

На парозе трэцяга тысячагоддзя мы зноў апынуліся перад старой адвечнай ісцінай: чалавек, які дбае пра сваё здароўе, павінен часцей кантактаваць з яе вялікасцю прыродай, карыстацца яе гаючымі сродкамі. Сёння гэтая ісціна стала надзвычай папулярнаю, многія з нас шукаюць здароўе не ў паліклініках і аптэках, а ў "зялёных" дактароў, на ўлонні прыроды. Лес, луг, парк, дуброва, рака, азярына, балота — добра знаёмыя ўсім нам аблічы прыродных "лекараў", ці не праўда? Тут вам і лекі, і вітаміны, толькі ведай, з якімі раслінамі, арганізмамі трэба найбольш "паразумецца".



Але вернемся крыху назад, да выказвання Фехнера. Напраўду, калі ўспомніць, што чалавек толькі частка жывой прыроды і нашы "калегі"-- расліны -- куды старэйшыя за нас паводле храналагічнага й біялагічнага ўзросту, нам адно застаецца зняць капялюш перад імі ды прызадумацца. Напрыклад, над тым, якія жудасныя праблемы для іх мы стварылі... Калі б яны маглі запярэчыць на выклік чалавечае дзейнасці, цывілізацыя проста знікла б – як непатрэбны баласт. Аднак мы працягваем жыць разам і ціхамірна. І гэтак жа ціхамірна пакутуем, выжываем. Бо ўсе арганізмы, і чалавек паміж імі, асуджаныя на існаванне ў тым асяроддзі, якое стварыў ён сам, чалавек.

Ёсць мясціны, дзе расліны жывуць па-боску, не ведаючы, што такое пашы, кар'еры, шахты, чыгункі, аўтабаны, куродым, шыны грузавікоў і г. д. Прыродныя сувязі тут не парушаныя, арганізмы не патрабуюць працяглай рэанімацыі.

На другім полюсе ўсё інакш. Тут маем аграландшафты, прамысловыя раёны, індустрыяльныя цэнтры, шляхі зносін і шмат чаго іншага.Жывым істотам жывецца тут цяжка, пакутліва, непрытульна. А іхняму здароўю пагражае тая ж небяспека, што і чалавечаму.

Так, у шматлікіх раслін існуюць праблемы, часам вельмі блізкія да людскіх.

Параўнайце лес, на які насоўваецца горад, з тым, да якога яшчэ не падступіла цывілізацыя. Альбо супастаўце дрэвы на гарадскіх вуліцах з тымі, якія ўзняліся да неба на адкрытым прывольным месцы. Апошняя – ва ўсёй сваёй моцы й красе. Валодаюць вялікай жыццёвай энергіяй. Чаго не скажаш пра чэзлыя гарадскія прысады. Расліны, якія стварыў чалавек дзеля пэўных прыхамацяў, насуперак ці ва ўрон прыроднай красе і волі, здольныя радаваць вока не больш, чым страўнік – прыгатаваная катлета. Натуральны стракаты луг ніколі не саступіць газоннай траве, хоць яна вельмі хараша ўпісваецца ў абжыты ландшафт горада ці курорта.

І яшчэ. Ніякая "імпартная"садавіна альбо раслінныя лекі, штучныя ландшафты ці сады не маглі, як правіла, замяніць чалавеку зычлівай шчодрасці мясцовых крыніц біяэнергіі. Толькі карэнная энергія экалагічна чыстых раслін давала сілы, мацавала здароўе людзей.

Пра ўсё гэта трэба памятаць, калі мы, кожны з нас асабіста, спрабуем асэнсаваць свае дачыненні з прыродай, якая засталася ў спадчыну нам, нашым дзецям і ўнукам.

Дрэвы першымі сярод раслінаў пацягнуліся да сонечных промняў і захавалі энергію "цяпла й ласкі" на абшарах старых лясоў, у гаях і дубровах. Паводле зорнай батанікі (астрабатанікі), кожнаму з нас наканавана сваё дрэва (Казярогу — сасна, Вадалею — смакоўніца, Рыбе — вяз, Авену — сліва, Цяльцу — мірт, Блізнятам — лаўр, Раку — вярба, Ільву — дуб, Дзеве — яблыня, Вагам — бук, Скарпіёну — рабіна, Стральцу — пальма). Не варта засмучацца, што пальма ці смакоўніца не растуць на нашых падворках. Папоўніць запас энергіі можна ад любога дрэва-донара, пад кронай якога вам хораша й даспадобы. Выбіраючы, вы адчуеце, наколькі сумяшчальныя вашы рытмы, характары.

Цяпер што да метаду сілкавання. Заўважу адразу, што выбар партнёраў у зімовы час вельмі абмежаваны. Асноўная частка дрэў, за выключэннем хвойных, знаходзіцца ў спячцы. Пачакаем вясны. Аднак ёсць выдатнае выйсце — для людзей "з фантазіяй" і абстрактным мысленнем прапануецца хатні варыянт энергетычнага сілкавання пад назвай *"Дрэва"*. Практыкаванне выконваецца ў добра праветраным пакоі, седзячы ў крэсле ці ў іншым зручным месцы.


SUMMARY

*Scientist and biologist Vladimir Golubkov continues his speculation that living nature "on your doorstep" and multifarious world of plants conceal inexhaustible sources of life energy and health for man. A relaxation exercise named "Tree" is described here.*


*Уявіце сабе... Час позні вясны. Вы ў лесе, і вас абступаюць бярозы, дубы-веліканы, кусты ядлоўцу. Крок за крокам вы ступаеце па цёмна-рыжым насціле, што ў яркіх сонечных плямках. Ступаеце ціха, павольна. Як мякка нагам на падушках перазімавалага шэрхлага лісця! Ягоны ўрадлівы пласт прашылі стрэлкі травы, весела і першародна пазіраюць на вас пралескі і прымулы. Вы бачыце, як на паляну выйшаў алень і з ім палахлівая самка. Здаецца, яны застылі ў сваёй паставе. Услухоўваюцца ў гоман лесу, п'юць водар вясны... У празрыстым паветры кружыцца пара матылькоў... Вы чуеце стук дзятла... Дзесьці побач буркоча голуб... У падлеску прашуршэў маленькі пушысты звярок... Вы дыхаеце водарам ігліцы... Лясных фіялак... Сырой зямлі...*

*Седзячы ў крэсле, вы адчуваеце, як вашы ногі глыбей і глыбей уваходзяць у глебу. Вы, быццам маладое садзіва, прагнеце замацавацца, забяспечыць сабе спажытак, наталіцца зямнымі сокамі. Вашы карэнні разрастаюцца і разгаліноўваюцца, сягаюць самых нетраў, вечных зямных крыніц, з якіх можна напіцца ў летні сухмень. Калі трапляецца камень, карэнні шчыльна аплятаюць яго, мацуючы вашу паставу. І ўжо нішто не зможа зрушыць вас з месца. Ні вецер, ні бура, ні звер, што точыць рогі аб вашу кару. Няма такой сілы, якая б вырвала вас з зямлі. Кругом чорная, пажыўная цемра, дзе ўсё плодзіцца і зямняецца. Вы адчуваеце сувязь з зямлёй, з цэлай планетай, вы — яе частка. На вас трымаецца свет. Вы чуеце сэрцабіццё Зямлі.*

*Вашы карэнні сягаюць углыб, галіны цягнуцца ўгору, да сонца й нябёсаў. Жыццёвыя сокі мкнуць скрозь камель, праходзяць праз голле, даюць энергію вашаму росту.*

*Прахопліваюцца тысячы пупышак, распускаюцца свежыя лісцікі. Вы крыніца хараства і пладнасці, свежасці і шчодрасці. Птушкі ўюць гнёзды ў вашай кроне. Таўкуцца мошкі. Вы сувязь паміж небам і зямлёй. Паміж святлом і цемрай. Паміж камяніцай і зоркамі. У вашых жылах пульсуе сіла новай энергіі.*

Спакваля вашы карэнні й галіны зноў набываюць чалавечыя формы. Колькі хвілін спакойнага адпачынку — і вы вяртаецеся да ранейшага жыцця.

Як толькі адчуеце, што цела наскрозь прасякнулася энергіяй, падзякуйце дрэва за дапамогу. Не перабярыце норму! Дастаткова і трох мінут, каб дабраць патрэбную колькасць жыццёвай сілы. Лішак пагражае падвышэннем крывянога ціску.

**ДА СУСТРЭЧЫ ВЯСНОЙ!**

## Кніга рэкордаў

### Колькі шышак... і якіх!

Што Белавежская пушча вядомая ў свеце, ведае кожны. Першабытны еўрапейскі лес, які расце тут,-- класіка беларускай прыроды. Даследуючы дзялянкі, лесаводы з розных куткоў былога Саюза і свету адкрывалі ўсё новыя ды новыя з'явы. Напрыклад, вучоныя з Маскоўскага універсітэта лесу *П. Мельніс і М.Мярзленка* займелі падставы, каб заявіць , што шышкі беларускай яліны вартыя месца ў Кнізе рэкордаў Гінэса. Падчас навуковых доследаў вучоныя зарэгістравалі самую буйную з іх, што сустракаліся калі-небудзь сярод усіх яловых шышак зямнога шара. Яна "пацягнула" ў даўжыню на 183 мм. Даследчыкі адзначылі таксама іншыя адметнасці белавежскай яліны: разнастайнасць формы кроны і тыпаў яе галінавання. Толькі ў адной Белавежскай пушчы можна спаткаць вельмі рэдкую сасновую яліну з жалвакападобнымі наростамі кары. І яшчэ. Доследы паказалі, што белавежская елка расце хутчэй за сваіх сяброваў у іншых лясных рэгіёнах*! Мікалай Чэркас(Нацыянальны парк)*

## Перспектыва-1

### У "новы этап" – без аўралаў?

Выглядае на тое, што навука ў Нацыянальным парку " Белавежская пушча" перажывае новы этап. Прынамсі, такое меркаванне выказаў намеснік генеральнага дырэктара парка прафесар *Барыс Савіцкі.* Перагледжаны тэматыка і рабочыя праграмы навуковага аддзела. Цяпер усе 20 супрацоўнікаў (з лабарантамі разам) будуць працаваць паводле аднае тэмы: *Эколага-біялагічныя асновы захавання біяразнастайнасці ў лясных экасістэмах Белавежскай пушчы.* Праца мае 17 раздзелаў з тэрмінамі выканання ад двух да пяці гадоў. Вызначаны іх каштарысны кошт, прадугледжваецца таксама канкрэтны экалагічны, сацыяльны, прыродаахоўны, эканамічны эфект, які наважана атрымаць ў выніку даследванняў.

Сярод тэмаў знойдзе месца і распрацоўка новых маршрутаў экскурсій па Пушчы, паляпшэнне і развіццё турызму, перспектывы экалагічнай асветы і адукацыі на прыкладзе і з дапамогай сусветна вядомага запаведніка як палігона.

Карацей,пазіцыі навукі ў Пушчы хутчэй за ўсё падмацуюцца. А *практычная накіраванасць даследванняў,* хочацца спадзявацца, не стане зручнай падставай для адміністрацыі выпраўляць навуковых супрацоўнікаў на прыбіранне прылеглай тэрыторыі. Аўралы тут здараюцца часта, і незанятых рук, апроч навукоўцаў, бывае, знайсці цяжка. *Крыніца: уласная інфармацыя.*

## Засцярога

### Створаныя, каб забіваць

Разбуральнае дзеянне пестыцыдаў (ядахімікатаў) на чалавека, прыроду і клімат неабвержна даказана даўно, яшчэ ў 60-я гады. Яны пераносяцца невераемна далёка ад месца вытворчасці і скарыстання, трапляюць да нас праз паветра, дождж і снег, атручваюць пашы, заносяць заразу ў глебу, ваду, прадукты. Створаныя, каб забіваць, яны не толькі ператтварылі лясы, палі, вадаёмы ў гробішчы птушак – ад ястрабаў да пеўчых, рыб і раслін. Цяпер яны разбураюць ахоўны азонавы слой зямлі. Не застаўся ў баку і сам чалавек. У былым Савецкім Саюзе, дзе выкарыстанне пестыцыдаў было недастаткова кантралюемае, штогод здаралася 700 000 захворванняў і 1400 смерцяў ад прадуктаў харчавання, нашпігаваных ядахімікатамі. У ЗША колькасць сельскагаспадарчых рабочых, атручаных пестыцыдамі, сягае ад 27 000 да 300 000 чалавек на год. Стрэлы хімічнай вайны часцей за ўсё б'юць па нырках, печані, імуннай сістэме, нервах і зроку. Правакуюць рак і генетычныя наступствы. Нівы Беларусі не ёсць выключэннем. Скупыя абследванні сведчаць пра забруджанасць пестыцыдамі значных тэрыторыяў (да 30 і звыш працэнтаў абследаваных). Шэраг высокатаксічных пестыцыдаў не кантралюецца зусім. На думку вучоных, гэта ствараe генетычную пагрозу нацыі. Найлепшы і адзіны прынцып перасцярогі дзеля ўратавання людзей і наваколля – поўнае адмаўленне ад практыкі выкарыстання пестыцыдаў у сельскай гаспадарцы.

## Вецер

### Навінка фінскіх майстроў прыдалася б і на Беларусі

У народзе заўсёды цанілі моц ветру і на самых прыдатных месцах ставілі ветракі, якія малолі збожжа. Былі сярод іх ветракі-гіганты, былі і такія, якія памяшчаліся на агародзе, за вуглом хаты. Вынаходнікі-майстры з-пад Сянно ці Смаргоні імкнуліся так запрэгчы вецер, каб чалавеку было лёгка і спраўна ім кіраваць.



Даўно пазнікалі ветракі. Беларусь навучылася абыходзіцца без паслугаў ветру, трацячы сродкі там, дзе можна было б зэканоміць. Аднак праблема энергарэсурсаў паклікала на пошук вынаходнікаў іншых краін. Нядаўна ў Фінляндыі, напрыклад, зроблена прынцыпова новая ветравая электрастанцыя з рэкордным ККД. Яна прызначана для невялікіх гаспадарак, пасёлкаў, аддаленых дачных сялібаў, цэнтраў зімовага спорту ў гарах. Навізна яе ў тым, што сіла ветру на ёй перадаецца на генератар без традыцыйнай механічнай трансмісіі, якую замянілі гідраўлічная помпа і гідрарухавік.

У канструкцыі шмат перавагаў. Яна таннейшая з-за таго, што генератар і асноўнае абсталяванне знаходзяцца на зямлі , а не на вежы. Па-другое, у акамулятары можна назапашваць энергію на выпадак адсутнасці ветру. Нарэшце, вятрак можа працаваць і пры слабым ветры. Да ўсяго, ён амаль не шуміць.

Праўда, карову на кірмашы купіць крыху прасцей, чымся гэтую ветрастанцыю: кошт яе сягае 20 тысяч даляраў.Так што беларускія карыстальнікі могуць толькі чакаць, што прыклад фінскіх майстроў ветру будзе заўважаны і ў нашай краіне. А вынаходнікі знойдуцца і ў сваёй Айчыне. *Крыніца: замежны друк.*

** селянін Амброжа Сабулянец з Браслаўшчыны і яго млынок побач з сядзібай, 1980. Фота: з архіва Неруш-прэс.*

## Месца на карце

### Геаграфічны цэнтр - пункт адліку нацыянальных каштоўнасцяў

Прыкладам дзейнага краязнаўства сталася акцыя адкрыцця і фіксацыі геаграфічнага цэнтра Беларусі. У гэтым месцы блізу вёскі Антонава Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці устаноўлены памятны знак. "Знаходка" з'явілася вынікам працы *Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання і цэнтра навукова-тэхнічных і вытворчых паслуг "Аэрагеакарт".* Водгукі прэсы адразу засведчылі, што кропка на карце папоўніць спіс нацыянальных адметнасцяў краіны. Лёс суверэннай Беларусі, захаванне яе ландшафтнай і біялагічнай спадчыны, духоўнае адзінства грамадства — такія галоўныя каштоўнасныя каардынаты, на якіх засяродзілі ўвагу аглядальнікі мас-медыя. Можна думаць, што геаграфічны цэнтр краіны хутка стане адным з папулярных для наведання. Асабліва калі мець на ўвазе, што сама Беларусь займае цэнтральнае месца на еўрапейскім кантыненце.*Уласная інфармацыя.*

## Конкурсы

### Хараство як сродак выратавання

Гарманічныя дачыненні Чалавека і Прыроды могуць усталявацца толькі тады, калі сам чалавек набудзе ўнутраную раўнавагу, навучыцца ўнікаць агрэсіўнасці і злосці. Але адкуль чэрпаць сілы, каб утрымацца перад наступам разбуральнасці? Відаць, патрэбны вялікія намаганні і з боку дзяржавы, і грамадскіх суполак і, вядома ж, сродкаў масавай інфармацыі. Абуджаць у душах людзей дабро і спакой, несці асвету і прасвятленне, знаёміць з духоўнымі каштоўнасцямі — такую мэту абраў і наш, вольны ад камерцыйных інтарэсаў часопіс *Ідэал,* які ўжо пяць гадоў з чытачамі.

На старонках выдання распачаты конкурс на самую арыгінальную і змястоўную інтэрпрэтацыю вядомага тэзіса: *Краса ўратуе свет* (4,96). Пераможцаў чакаюць ладныя ўзнагароды, а рэдакцыя чакае конкурсных матэрыялаў.

Хараство, экалагічная чысціня — амаль сінонімы. Залучэнне ў свет каштоўнасцяў праз часопіс *Ідэал,* як нам думаецца, вельмі сугучнае з праграмнымі мэтамі газеты *Белавежская пушча.* Пажадаем калегам поспехаў на іх нялёгкім творчым шляху, а тым, каго зацікавіў наш часопіс, паведамляем: падпіска на *Ідэал* прымаецца па каталогу *Красікапрынт* ва ўсіх аддзяленнях ашчадбанка Беларусі ўвесь год. *Рэдакцыя часопіса "Ідэал".*

## Сама-грынпіс

### "Гэтае смецце выкінуў..."

Такая таблічка з тэкстам і прозвішчам суседа-забруджвальніка (на здымку) з'явілася на агароджай дачнага таварыства *Сонечнае* пад Мінскам. Адходы з лецішча, выкінутыя гаспадаром на снег, былі апазнаныя пільным вокам, а ўчынак атрымаў агалоску. Цяжка сказаць, што больш натхніла аўтара імправізаванай акцыі ў абарону навакольнага асяроддзя: святло традыцый "камсамольскіх пражэктараў"?.. прыклад сусветна вядомага *Грынпіса?..* грамадзянская нецярпімасць да хамства?.. Шкада, што такіх імянных таблічак куды менш, чым скінутага ананімна-нічыйнага смецця ў родным наваколлі. *Уласная інфармацыя.*



*Фота: Віталь Прошча ("Неруш-прэс")*

## Перспектыва-2

### Рэгіёны, яднайцеся!

Рэгіянальныя праграмы развіцця і аховы навакольнага асяроддзя могуць стаць грунтам для таго, каб на пачатку наступнага стагоддзя на змену Арганізацыі аб'яднаных нацый прыйшла Арганізацыя аб'яднаных рэгіёнаў, што ўрэшце рэшт абумовіць стварэнне ў 2050 годзе сусветнага ўрада. Пра гэта паведаміў часопіс *Футурыст* (ЗША) ў адным са сваіх штогадовых дадаткаў.

## Экспедыцыі

### Нёман збірае сяброў

Нёман — другая па велічыні і адзіная рака на Беларусі, якая нарадзілася пад небам нашай Бацькаўшчыны (не зважаючы на прытокі). У лёсе беларусаў яна гэтткая ж пашанотная, што і Дняпро для ўкраінцаў ці Вісла для палякаў. *Бацька наш Нёман,* — кажа беларус. Шлях ракі ў Балтыйскае мора налічвае 937 кіламетраў, прыкладна сярэдзіна гэтага шляху прыпадае на беларуска-літоўскае памежжа. Што да Беларусі, басейн ракі тут разам з прытокамі займае больш як 20 працэнтаў усёй тэрыторыі (46,5 тыс. кв. км). Пейзаж Прынямоння — лясы і лугі, раўніны й пагоркі, раскоша прырэчных дуброў. Вобраз Нёмана дапаўняюць яго прытокі, мноства паселішчаў і засценкаў, духоўная спадчына мясцовых жыхароў.



У 1995 годзе тры раёны Міншчыны — Уздзенскі, Капыльскі і Стаўпецкі — аб'ядналіся ў жаданні разам паспрыяць сваёй рацэ, прасякнуцца клопатам пра яе экалогію, захаванне культурных здабыткаў. Так нарадзілася ініцыятыва распачаць міжраённую эколага-культуралагічную экспедыцыю *Па Нёману песня плыве*. На Узденшчыне ля вытоку



слыннай ракі быў пастаўлены мемарыяльны знак, даследавана пойма вярхоўя, вырыта памятная студня, пазначаны гістарычныя мясціны. Працягам пачынання сталася трэцяя сустрэча ў Стоўбцах. Праграма экспедыцыі-96 была насычанай: размова пра надзённае за "круглым сталом", экалагічная вандроўка па Коласавых мясцінах, пераправа на лодцы , пасадка дрэў. Святочнасці й маляўнічасці сустрэчы надаў чынны удзел у ёй шматлікіх фальклорных калектываў. *Берагчы Нёман трэба не адно з дапамогай ачышчальных сістэм, але і любоўю, душэўнай чысцінёй, творчасцю,* — аднадушна выказаліся удзельнікі.

Значным момантам экспедыцыі-96 была перадача эстафеты "па цячэнні" — гасцям суседняй Гродзенскай вобласці. Наступным разам сяброў мае сабраць Карэліцкі раён. А наперадзе – іншыя прынёманскія раёны Беларусі ды блізкай Летувы. *Уласная інфармацыя.*

** левы бераг Нёмана блізу Стоўбцаў апрануў ахоўны каўнер з бетону, каб рачная быстрыня не падмыла дарогу на Нясвіж (ліпень 1996). Фота: Валерый Дранчук*



## Анекдоты

### Зіма пачалася...

У пустыні сустракаюцца тушканчык і вярблюд.
— Няўжо, тушканчык, зіма пачалася? Пяску столькі!..

## Квінт-цытата

### Справу весці – не кіем трэсці

"... Навошта ў запаведных гаспадарках трымаць жывёлагадоўчыя фермы: разводзіць коней, буйную рагатую жывёлу, свінней. Няўцям і тое, чаму справу ў запаведніках вядзе адміністрацыя Прэзідэнта, калі ёсць Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ды Міністэрства лясной гаспадаркі, якія далі б рады забяспечыць высокапрафесійнае кіраўніцтва запаведнікамі..." В.Раманаў, З.Мураўёў, А.Штэйнбок. *Крыніца: газета "Круг". №3. 1996.*

## Экзоты

### Дрэва на цэлы гай

Пастаяць пад кронай неабсяжнага дрэва баньяна — дзіцяці трапічных краінаў — можна ў батанічным садзе рэспублікі Сінгапур. Слова "баньян" азначае не від расліны, а яго здольнасць запамагчыся новымі стваламі для падпоры кроны. Што цікава, дапаможныя ствалы вырастаюць не з зямлі, а наадварот — звісаюць зверху ў выглядзе паветраных каранёў, тонкіх і гнуткіх, якія з вышыні 30-40 метраў прагна цягнуцца да глебы. Затым закараняюцца і робіцца падабенствам ствала, які і падпірае крону. Таму дрэва-баньян расце хутчэй ушыркі, чым угору, і неўзабаве робіцца мала падобнае на адно дрэва, а ўяўляе з сябе цэлыя зараснікавыя дзялянкі. У Індыі баньяны садзяць каля дамоў і лічаць іх свяшчэннымі. *Крыніца: Лес і чалавек, штогоднік, 1985*

## Рарытэты

### Не ўсё схаваеш у Пушчы, пакуль ёсць... архівы

Цікавы дакумент паднялі з архіваў навуковыя супрацоўнікі Нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Стагадовая знаходка — *Спіс асобаў, якія займаюцца браканьерствам* – мае з сябе невялікую кніжачку і выглядае па сённяшнім часе, бадай, шэдэўрам. Як відаць, каштавала гэта й нямала грошай, бо замаўлялася кніжачка ў прыватнай друкарні і зроблена досыць густоўна. Тут неабходна ўважыць на тое, што царская лясная ахова ведала кошт сваёй службе і ўмела пры кожным разе сябе паказаць. Некалькі асобнікаў было, вядома ж, адаслана ва Ўправу Імператарскага двара у Санкт-Пецярбург.У Пушчы, апроч яе кіраўніка, па аднаму "Спісу" атрымалі на рукі даглядчык паляўнічага палаца, агароднік ды электрамеханік. Усе яны мелі прадпісанні не падпускаць і блізка да сябе на працу асобаў, што трапілі ў "чорны спіс".

Але, бадай, не гэта самае цікавае ў архіўным сюжэце. Цяперашняя лясная ахова зрабіла нечаканую высновы, што й праз стагоддзе становішча мала чым змянілася. Па-першае, такі спіс можна скласці хоць сёння, а па-другое, прозвішчы ў ім будуць амаль... тыя ж самыя: браканьерскія жарсці продкаў перадаліся ў спадчыну перав族жна іхнім нашчадкам. *Мікалай Чэркас (Нацыянальны парк "Белавежская пушча").*

## SUMMARY

*An information panorama is presented in the subsections "Earth Day", "Rarities", "Discoveries", "Expeditions", "Wind", "Self-Greenpeace", "Warning", "Prospects" and others.*

*Belaya Vezha (White Tower) a 36-metre high monument dating from the second half of the 13th century, still stands in the vicinity of the ancient Pushcha, p. 14, 15.*

## Заданне майстру

### На матыў зубра

Зважаючы на год Зубра, які рэдакцыя газеты абвяшчае для сваіх чытачоў і падпісчыкаў, прапануем няхітрую графічную кампазіцыю для пераводу на свой "хатні" матэрыял, які знойдзецца пад рукамі. Найперш гэта можа прыдацца для выпальвання, разьбы, размалёўкі пад лак, вышыўкі. Плёну ў творчасці!




## Дзень Зямлі

### Энергія супольнай патужнасці

Свята прыродалюбаў і прыродазаступнікаў, названае *Днём Зямлі*, адзначаецца ў свеце 22 красавіка і зазвычай ахоплівае ўвесь тыдзень. Сёлета гэты дзень прыпадае на аўторак, таму ўжо цяпер можна лічыць пачаткам Тыдня Зямлі суботу 19 красавіка.

Спрадкаваць, пабудаваць, падмесці, вывезці, ачысціць, пасадзіць... Гэтыя галоўныя дзеясловы Дня павінны як мага ўвасобіцца ў справу, "ажывіць" аблічча нашых сялібаў — двароў і вуліц, ваколіц і берагоў, лясоў і ўрочышчаў. Але галоўнай, цэнтральнай акцыяй была і застаецца пасадка дрэў.

У гэты дзень мы таксама выказваем занепакоенасць станам навакольнага асяроддзя, асэнсоўваем яго, ладзім імпрэзы і выстаўляем пікеты, даводзім свае патрабаванні перад дзяржавай і яе кіраўніцтвам.

*Дзень Зямлі* — выдатная магчымасць выявіць і пацвердзіць наша стаўленне да прыроды, менавіта — дапамагчы ёй. *Газета "Белавежская пушча", інфармацыйнае зялёнае агенцтва "Неруш-прэс".*



## Жыццё і смерць

### Не стала чалавека, прыродалюба, аўтара

Паміж зімамі — леташняй, ранняй ды снежнай, і сёлетняй, не менш сапраўднай, казачна прыгожай — не стала аднаго з першых аўтараў газеты, вядомага міколага, дырэктара музея ў Белавежскай пушчы Паўла Міхалевіча. Ён захварэў нечакана і ўжо не здолеў больш падняцца, вярнуцца да любімай справы. Павел Кірылавіч радаваўся нараджэнню нашай газеты і пры кожнай сустрэчы весела-гаманліва будаваў планы свайго дзейнага творчага супрацоўніцтва. Шкада, чытач *Белавежскай пушчы* не дачакаецца аўтарскай рубрыкі *Грыбы* (застаўся толькі аудыязапіс нашай размовы), а наведвальнікі музея не пачуюць цікавых яркіх расповядаў пра таямніцы і скарбы Пушчы. Шкада і балюча.

Дзякуй, Павел Кірылавіч, за сустрэчы, за Вашы турботы і спадзяванні, за добрыя парады і перасцярогі. Бывайце! *Рэдактар газеты "Белавежская пушча" Валерый Дранчук.*

---

**Выказваем шчырую ўдзячнасць за дапамогу ў час падпісной кампаніі:**

**Мінскаму гарадскому камітэту па экалогіі (старшыня А.Вастракнутаў), сумеснаму прадпрыемству "Белвестранс" (дырэктар Г.Малевіч), рэдакцыі "Настаўніцкай газеты" (рэдактар А.Куліцкі), Гродзенскаму абласному камітэту па экалогіі (старшыня П.Путра), а таксама ўсім, хто спрычыніўся да распаўсюджвання і рэкламы газеты.**

*Будзьце й надалей з намі!*

Газета бясплатна прымае абвесткі прыватнага кшталту, адрасы перапіскі, пытанні для адказаў, якія зробяць тэматыку нумароў больш актуальнай і разнастайнай. Чакаем.

У рэдакцыі засталося трохі папярэдніх нумароў газеты, якія можна атрымаць па пошце (калі ёсць тэлефон, пазначце нумар). Кошт аднаго асобніка 5000 руб.

*Газета "Белавежская пушча"*

Вітольд
Бялыніцкі-Біруля

**1872 - 1957**

125 гадоў
з дня нараджэння



## Зімовы сон

Алей
90 x 125

**1912**

Зіма. Ноч. Ціша.

На закіданым снегам узгорку спіць каплічка.

Калі з галерэі нашага Мастацкага музея заходзіш у невялікую залу, дзе жывапісныя работы пераважна двух мастакоў, найбліжэйшых сяброў — Бялыніцкага-Бірулі і Жукоўскага, спачатку звычайна заўважаеш заснежаную, у блакітным сне каплічку, і яна доўга цябе не адпускае. Ты набліжаешся да яе, адразу адчуўшы цішыню ды чысціню зімовае ночы на ўзлеску, блакітную вусціш, іх над табою ўладу, і ўлада іх такая моцная, што, пра яе яшчэ не думаючы, ты і сам нібы ў сне, усё роўна як падымаешся па снезе на ўзгорак — такое адчуванне. Хочаш у каплічку? Ці праз яе — вышэй? Куды — вышэй? Да Госпада Бога?

Пасля над гэтым задумаешся, калі, супакоіўшыся, адыйдзеш ад пейзажа і будзеш разглядаць яго зводдаль.

Здзівішся: так няшмат усяго — зімовы ўзгорак і на ім каплічка, — але адкуль такая ўлада над тваёй душою? Ад прасторы. Незаплямленай свабоды, глыбознай цішыні і чысціні, замглёна-бязмежнага блакіту ночы на зямлі і ў небе?

Тут — улада мастака. Ён ведае душу прыроды і людскую душу, ведае, як звесці іх ва ўзаемнай радасці, не разбурыўшы гармоніі свету і сусвету: усе гарызанталі — узгорка, каплічкі, неба — прыўзняў у чысціні да Найвышэйшага і паказаў туды дарогу.

*"Зімовы сон"* — так назваў Бялыніцкі-Біруля свой пейзаж. Але яго пейзаж стаў нашай бяссонніцай. І мы называем яго іначай — *"Блакітная каплічка"*.

І больш няма пытанняў?

Пытанні ёсць. Яны таксама трымаюць нас перад магічным пейзажам: калі і дзе гэтая казка напісана? У якім стане душы маляваў мастак? Хто быў сведкай?

*Віктар Карамазаў*

# Блакітная сімфонія

Вядомы год — 1912. Вітольд Каятанавіч у майстэрні пісаў мала, эцюды — усе з натуры, у прыродзе. Паляўнічаму якое паляванне ў майстэрні? Пошук пейзажа, работа над ім былі для яго паляваннем на нечаканае свята, на тон, на цень, на цішыню і вусціш, на мімалётны настрой, на перамену святла і настрою, на тое часовае, што вось тут яно — ёсць. А вось тут — няма. Трэба паспець і злавіць. Гэтак і каплічку злавіў у блакітным зімовым сне.

Дык дзе ж гэтыя ўзгорак і каплічка?

Сам Біруля пра гэта не сказаў — хто можа ведаць? Няма ўжо сведак. Але ёсць успамін Вітольда Каятанавіча:

*"Аднойчы зімою, з`ехаўшыся на калядную ёлку ў Гарусава, мы, сябры-мастакі, выйшлі на паляванне. Каб скараціць дарогу ад вёскі да лесу, пайшлі праз возера на высокі працілеглы бераг, дзе стаяла хата Аляксея Кузёмкіна. Была раніца. Галіны старых бяроз, белыя ад інею, алмазамі зіхцелі пад сонцам. Багданаў-Бельскі спыніўся і сказаў:*

*— Якое прыгожае месца! Я б хацеў, каб ты пабудаваў тут дачу.*

*Ён дастаў з кішэні сваю візітную картачку, заламіў ражок і падаў мне, як першы візіцёр на маёй будучай дачы.*

*Пажаданне сябра я перадаў жонцы Вользе Іванаўне. Яна была ў захапленні, і неўзабаве мы з ёю адправіліся да Кузёмкіна купляць зямлю. Гэта было ў снежні 1912 года, а вясною 1914 года я з сям'ёю пераехаў на сваю новую дачу".*

Возера Удомля і вёска Гарусава — Цвярская губерня. Туды на пачатку стагоддзя Біруля з сябрамі — Жукоўскім, Багданавым-Бельскім, Марававым і Сцяпанавым — прыйшоў па слядах Левітана, свайго настаўніка і мастацкага куміра, і там застаўся на ўсё жыццё. Пакуль на беразе Удомлі не пабудаваў дачу, жыў, здымаючы пакоі, па вёсках і маёнтках вакол Удомлі і найбольш — у вёсцы Гарусава, у вялікім, каля самай вады, драўляным доме Аракчэевых, які ў вёсцы пачалі называць домам мастакоў. Пакояў было шмат. Хапала і гаспадыням, тром сёстрам, і ўсім Бірулевым сябрам. Збіраліся яны там заўсёды на пачатку зімы, палявалі і малявалі. На каляды да іх прыязджалі сем'і — жонкі і дзеці. Ставілі ёлку. Было шмат музыкі, жартаў, спеваў, масак, падарункаў. На ёлку запрашалі сялянскіх дзяцей, суседзяў...

Днём мастакі ў любое надвор'е пісалі эцюды.

SUMMARY

*The author describes one of Byalynitski-Birulia's landscapes "A Winter Sleep" as a blue symphony that opens up the soul of nature, painting is permanently on display at the Belarusian Museum of Arts and never fails to attract the attention of visitors.*

Калі святы і зімовыя паляванні заканчваліся, жонкі і дзеці ад'язджалі, хтосьці з мастакоў пераязджаў у суседнія з Гарусавам вёскі, але Вітольд Каятанавіч адсюль у тыя гады далёка не ад'язджаў. Хіба толькі па справах у Маскву. Ды яшчэ бывала, што на колькі дзён яго з Гарусава зманьваў след звера. Выязджаў паляваць мядзведзя.

Зіму 1912 года Біруля хутчэй за ўсё пражыў тут, на беразе Удомлі, да вясны, да лета. Бо калі вясною 1914 года ён перасяліўся ў збудаваную на Удомлі дачу, то будаўнічы лес на яе пэўна ж вывозіў у студзені-сакавіку 1913 года. Дачу будаваў вялікую, з адборнай сасны, якую добры гаспадар нарыхтоўваў узімку, раней, як пойдзе сок, а Біруля кожнае бервяно адбіраў смаловае, душыстае — яно і цяпер, амаль праз дзевяноста гадоў, ляжыць у сцяне як новае. Біруля спяшаўся пабудаваць дачу за адно лета і пакідаць бераг Удомлі проста не мог.

Ну, а блакітная каплічка — што за яна? Калі стаяла там, дзе жыў тую зіму Біруля, то дзе стаяла? У Гарусаве? А можа, у суседніх вёсках — Сігаве, Каскове, Шамардзіно? Ці, можа, гэта тая маленькая цэркаўка святога Міколы-угодніка, якую тады ж, на пачатку стагоддзя, перавезлі ў вёску Стан, што таксама на Удомлі, паставілі на яе ўскраіне? Гэта ж яна першаю разнесла па Удомлі сваім звонам сумную вестку, калі ў 1957 годзе ўлетку памёр Вітольд Каятанавіч.

Гадаць далей не будзем. Хіба мала таго, што ўжо ведаем? што і блакітная каплічка мастаком не выдуманая? што яна з таго самага берага, на якім жыў і пісаў свае цудоўныя пейзажы Біруля?

Ён на яе маліўся.

Мы молімся на яе.

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА
Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"
* год выдання трэці, 1997 №1 /4/
* рэгістрацыйны нумар 125, наклад 4500 асобнікаў, кошт дамоўны

**Тэхнічная група**: Уладзімір Бліноў, Аляксандра Маркава, Цімох Дранчук, Уладзя Ляская
**Афармленне, макет**: Валерый Дранчук.
Падпісана ў друк 21.01.97. Замова 264
Пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Рэдакцыя пакідае за аўтарамі магчымасць вольна выказваць свае думкі і меркаванні, гэтак жа як і несці адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

**ЭКААПЕКА - 97**
Калі вы заможны чалавек і вам падабаецца газета "Белавежская пушча", вы можаце ахвяраваць на яе магчымыя сродкі. Ваша апека – заўсёды ў пашане.

BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA Belarusian Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe to Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency NERUSH-PRESS
Contakt: 220088 MINSK Ivanovskaya 38 - 16 Phone (0172) 36-50-76